WHITE-RUSSIAN ACADEMY OF SCIENCES
THE COMISSION OF INVESTIGATION WEST WHITERUSSIA

J. DOWGI

# THE WHITERUSSIAN NAZI-FASCISM IN LATVIA

THE EDITION OF WHITERUSSIAN ACADEMY OF SCIENCES
MINSK—1933

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
КАМІСІЯ ПА ВЫВУЧЭНЬНЮ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Я. ДОЎГІ

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫЗМ У ЛАТВІІ

ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1933

# УСТУП

Гэта брошура зьяўляецца спробай дасьледваньня беларускага буржуазна-нацыяналістычнага руху ў Латвіі, які да гэтага часу амаль зусім не асьвятляўся на старонках нашага друку.

Беларусоў у Латвіі нязначная меншасьць, каля 80.000, што складае больш 4% насельніцтва Латвіі. У Латвіі маецца наступная сетка беларускіх школ: 2 гімназіі, настаўніцкія курсы, 2 школы для дарослых, каля 40 пачатковых школ. Маецца цэлы рад беларускіх нацыяналістычных організацый. Гэта тлумачыцца тым, што латвійская буржуазія яшчэ ў першыя гады свайго панаваньня пачала стымуляваць беларускі нацыяналістычны рух для таго, каб проціпаставіць яго ўплывам расійскіх організацый у Латгаліі, паралізаваць там польскую пропаганду, адцягнуць увагу працоўных мас Латгаліі ад рэволюцыйнай барацьбы.

Беларускія контррэволюцыйныя эмігранты, організатары банд Балаховіча, асеўшыя на тэрыторыі Латвіі, былі пастаўлены латвійскай буржуазіяй на чале беларускага нацыяналістычнага руху. Былы беларускі палкоўнік Езавітаў і ўдзельнік банд генэрала Шкуро—Пігулеўскі былі абвешчаны „правадырамі" гэтага руху. У хуткім часе да „правадыроў" далучыліся мясцовыя беларускія нацыяналісты і беларускія белаэмігранты, спэцыяльна запрошаныя туды з-за мяжы.

Дзейнасьць усёй гэтай кампаніі была толькі зьвяном у агульным ланцугу работы беларускай контррэволюцыі. З самага пачатку ўтварэньня латвійскай дзяржавы (1919 г.) і да самага апошняга часу дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў у Латвіі накіроўваецца па двух асноўных напрамках: 1) барацьба з рэволюцыйным рухам і організацыя беларускіх контррэволюцыйных сіл у самой Латвіі і 2) узмацненьне сувязі з беларускімі контррэволюцыйнымі элемэнтамі па-за межамі Латвіі.

Гэта імі робіцца для таго, каб у адпаведны момант выступіць аб'ядданым фронтам беларускай контррэволюцыйнай зграі супроць краіны працоўных, за буржуазную Беларусь.

Мы павінны пільна сачыць за кожным рухам ворага, як па гэты, так і па той бок мяжы і выкрываць яго контррэвалюцыйны твар, які ў мэтах клясавай мімікрыі прыкрываецца фальшыва-нацыянальным сьцягам.

Аўтар гэтай работы робіць спробу падліку найбольш важных праяў у працы беларускага нацыянал-фашызму ў Латвіі.

З-за недахопу адпаведных матар'ялаў аўтарам зроблены толькі першы крок, пасьля якога павінна працягвацца -вывучэньне пастаўленага пытаньня.

Зьяўляючыся супрацоўнікам Латсэктару Бел. АН, аўтар меў поўную магчымасьць сваечасова закончыць гэтую работу.

*АЎТАР.*

# КАРОТКАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БУРЖУАЗНАЙ ЛАТВІІ

## Утварэньне буржуазнай Латвіі і яе роля ў барацьбе супроць СССР

У канцы XIX і ў пачатку XX стагодзьдзяў экономічныя інтарэсы латвійскай буржуазіі знаходзіліся ў супярэчнасьці з інтарэсамі буржуазіі іншых нацый, а асабліва з інтарэсамі расійскага імпэрыялізму і туземнага нямецкага баронства. Пачынаючы з 1905 г. латвійская буржуазія высоўвае лёзунг „Вольнай Латвіі ў вольнай Расіі“, разумеючы апошнюю як канстытуцыйную монархію, якая латыскім губэрням павінна даць нацыянальнае земскае самакіраўніцтва. Пасьля Лютаўскай рэволюцыі 1917 г. латыская буржуазія вялікія надзеі на зьдзяйсьненьне гэтага лёзунгу ўскладала на расійскі часовы ўрад. У часе-ж Кастрычніцкай рэволюцыі ў Расіі, калі ўтварылася рабоча-сялянская ўлада на чале з комуністычнай партыяй, калі інтэрвэнты з усіх бакоў пачалі пагражаць краіне працоўных— латвійская буржуазія выкінула лёзунг „самастойнай“ Латвіі, каб выступіць у радох капіталістычных інтэрвэнтаў супроць Кастрычніцкай рэволюцыі. Гэта „самастойнасьць“ латвійскай буржуазіі якраз была на карысьць і заходня-эўропэйскаму імпэрыялізму, які з прыбальтыцкіх дзяржаў пачаў утвараць бар‘ер ад „бальшавіцкай заразы“.

Пры дапамозе ангельскіх і францускіх імпэрыялістаў і падтрымцы нямецкіх окупантаў, латыская буржуазія, пры ўдзеле латгальскіх ксяндзоў і соцыял-дэмократаў меншавікоў, сформавала, так званы „Уселатвійскі Народны Савет“, які пад крылом окупантаў 18 лістапада 1918 г. абвясьціў латвійскую „незалежную“ рэспубліку, на чале з правадыром кулацкай партыі К. Ульманісам.

Так званы „часовы ўрад“ Ульманіса ўвесь час абапіраецца на окупацыйную армію Германіі і на флёт ангельскіх імпэрыялістаў. Страх перад наступам чырвоных войск прымушае латвійскіх буржуазных міністраў, на чале з Ульманісам, 1 сьнежня 1918 г. зьвярнуцца да нямецкіх імпэрыялістаў з просьбай аб дапамозе. 26-га сьнежня таго-ж году яны просяць крэйсары ангельскіх імпэрыялістаў адкрыць свой агонь па рабочых дэманстрацыях Рыгі.

Але ўлада латвійскай буржуазіі і імпэрыялістаў-окупантаў праіснавала ня доўга. 2-га студзеня 1919 г. працоўныя масы Латвіі, пры падтрымцы латыскіх чырвоных стралкоў і пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў прагналі нямецкіх окупантаў і іх наймітаў. 13-га студзеня 1919 г. адбыўся першы зьезд Саветаў Латвіі, які абвясьціў Латвію Савецкай рэспублікай, на чале з П. Стучкай. Маладая Савецкая рэспубліка апынулася ў надзвычайна цяжкіх умовах. Краіна была разбурана вайной і окупантамі. У час вайны значная частка латвійскага пролетарыяту разам з прадпрыемствамі была эвакуявана ў глыб Расіі. Героічныя латыскія стралковыя палкі, якія змагаліся разам з Чырвонай арміяй, не маглі быць адразу зьняты з фронту і накіраваны на барацьбу з латыскай контррэволюцыяй.

Ня гледзячы на ўсе труднасьці, Савецкі ўрад Латвіі змог правесьці цэлы рад гістарычных мерапрыемстваў: нацыяналізаваў зямлю, прагнаў памешчыкаў з краіны, выпрацаваў адзіны плян вытворчасьці і разьмеркаваньня і г. д. Але Савецкім урадам была дапушчана буйная памылка ў аграрным пытаньні, якая мела ўплыў на далейшы лёс Савецкай Латвіі. VIII зьезд компартыі Латвіі, у 1930 г. наступным чынам характарызуе гэту памылку:

„У 1919 годзе Савецкі ўрад зрабіў вялікую памылку, не разьмеркаваўшы зямлю памешчыкаў і буйных зямляўласьнікаў, не забясьпечыў бедняком і серадняком вольнае скарыстоўваньне іх зямлі, недастаткова змагаўся з прымусовым аб'яднаньнем у камуны, якое практыкавалася на мясцох... Савецкі ўрад і компартыя, дапусьціўшы гэтую памылку, не змаглі аб'яднаць рабочую клясу з бядняцкім сялянствам у агульнай барацьбе супроць агульнага ворага“.

Тым часам, контррэволюцыйная зграя розных нацыянальных колераў яднала свае сілы для змаганьня з Савецкай Латвіяй. Латвійскія белагвардзейцы, на чале з пастарам Недра, выступілі ў Лібаве. Яны дзейнічалі разам з германскім генэралам фон-дэр-Гольцам. Белапалякі дзейнічалі пад Дзьвінскам. Эстонска-антантаўскія сілы—на поўначы. Неабходна таксама падкрэсьліць і контррэволюцыйную актыўнасьць у гэты час латвійскіх социял-здраднікаў меншавікоў. Лідар меншавікоў Мэндэрс наладзіў сувязь з катамі нямецкага пролетарыяту Носке і Шэйдэманам, якія організавалі дапамогу латвійскім контррэволюцыянэрам. 22-га мая 1919 г. белымі бандамі была захоплена чырвоная Рыга. Чырвоная армія Савецкай Латвіі адступіла ў Латгалію. Савецкі ўрад пераехаў у горад Рэжыцу. У студзені 1920 г. польскія окупацыйныя войскі занялі Латгалію і гэтым закончыўся першы пэрыод Савецкай Латвіі, пэрыод пролетарскай дыктатуры ў Латвіі. Крывавым тэрорам і зьверскай расправай душыла латвійская буржуазія рэволюцыйны рух рабочых. У аднэй толькі Рызе было больш 10 тысяч ахвяр белага тэрору.

У гэты час латвійская буржуазія, пры падтрымцы Антанты, захапіла ўладу ў свае рукі; зноў утварыўся ўрад Ульманіса,

які абвясьціў сябе „нацыянальным урадам“, а Латвію—„дэмократычнай рэспублікай“.

Латвія, як і іншыя лімітрофныя рэспублікі ў сыстэме імпэрыялістычных дзяржаў зьяўляецца пляцдармам, з якога рыхтуецца капіталістамі напад на Савецкі саюз. Польская буржуазія, пры падтрымцы заходня-эўропэйскіх імпэрыялістаў, працуе над утварэньнем так званага „бальтыцкага блёку“, мэта якога—узброенае выступленьне супроць краіны працоўных—СССР.

Антысавецкае супрацоўніцтва Латвіі з Польшчай пачалося яшчэ ў 1919-1920 гг., калі польска-латыская армія выступала супроць СССР пад агульным кіраўніцтвам польскага генэрала Рыдза-Сьміглага. У далейшым латвійскі міністр Мееровіц вельмі многа папрацаваў над утварэньнем блёку краін Прыбальтыкі і Польшчы. Аднachасова з гэтым ён умацоўваў сувязь з вялікімі імпэрыялістычнымі дзяржавамі, у першую чаргу з Францыяй.

Прадстаўнікі генштабу і ваенныя спэцы Польшчы сыстэматычна наведваюць Латвію, каб інструктаваць латвійскую армію і дагаварвацца па ваенных пытаньнях.

Заключаны дагавор з Польшчай аб абучэньні латыскіх лётнікаў у Польшчы. У Лібаве проектуецца вялікая фабрыка азоту, які неабходны для будучай газавай вайны. Рускія монархісты ў Латвіі формуюць і абучаюць кадры для вайны з Савецкім саюзам. Асабліва інтэнсыўная работа па падрыхтоўцы вайны з СССР праводзіцца на тэрыторыі Латгаліі, якая непасрэдна мяжуецца з Савецкім саюзам.

„Латгальская буржуазія, пад выглядам дапамогі працоўным організоўвае так званыя грамадзкія работы па будаўніцтву дарог і мастоў... Пабудаваны масты, маючыя ваенна-стратэгічнае значэньне, у Рэжыцы і Дзьвінску, праводзіцца сетка новых чыгунак, Рыга——Мадон—Корсаўка і Рэжыца—Ругай“.

„У прымежнай паласе будуюцца новыя грунтовыя дарогі і масты, разьлічаныя на перавозку ваеннага снаражэньня і грузаў. У пачатку 1932 г. адпушчана на будаўніцтва гэтых дарог 412.000 латаў.[1] У прымежных раёнах адбываецца асушка балот з ваенна-стратэгічнай мэтай“[2].

Інтэнсыўная падрыхтоўка латвійскай буржуазіі да вайны з СССР ёсьць толькі зьвяно ў агульным антысавецкім ланцугу імпэрыялістаў Захаду. Вялікія імпэрыялістычныя дзяржавы разам з Польшчай імкнуцца ўмацоўваць прыбальтыцкі пляцдарм для нападу на краіну працоўных. Усё гэта добра разумее латыская комуністычная партыя. Перад ёй стаіць задача падрыхтаваць працоўныя масы гораду і вёскі, каб у патрэбны момант:—

„...Інтэрвэнцыянісцкую вайну ператварыць у вайну грамадзянскую, ва ўзброенае змаганьне працоўных мас гораду і вёскі за зьвяржэньне капіталістычнага ладу, за ўстанаўленьне пролетарскай дыктатуры“[3].

[1] Лат—грашовая адзінка Латвіі—37,5 зал. кап.

[2] „Товарищ“. Орган ЦК и латгальского обласкома компартии Латвии № 4—6, 1932 г. „Спартак“, стр. 25.

[3] З рэзолюцыі VIII зьезду компартыі Латвіі.

## Крызіс латвійскай прамысловасьці

З часу ўтварэньня буржуазнай латвійскай рэспублікі адбываюцца рэзкія зьмены ў жыцьці краіны. Замкнуўшыся ў вузкія межы сваёй дзяржавы, Латвія траціць шырокі расійскі рынак, яна ня мае магчымасьці вытрымаць конкурэнцыю з больш разьвітымі заходня-эўропэйскімі капіталістычнымі краінамі і вымушана абмяжоўвацца амаль выключна сваім унутраным рынкам. Разбураная вайной і адрэзаная ад сыравінных баз, латвійская прамысловасьць перажывае безнадзейны заняпад. Да імпэрыялістычнай вайны ў Латвіі была даволі буйная прамысловасьць. Некаторыя прадпрыемствы, як, напрыклад, гумовая фабрыка, „Праваднік“, (16 тыс. рабочых), вагона-будаўнічы завод „Феникс“ (15 тыс. рабочых) і інш. былі буйнейшымі прадпрыемствамі ў Расіі. Армія прамысловага пролетарыяту дасягала 110 тыс. чал. Выгаднае географічнае палажэньне на Бальтыцкім моры, вольны доступ да шырокіх рынкаў Расіі, выключна танная рабочая сіла—усё гэта спрыяла разьвіцьцю мясцовай прамысловасьці. Царскія чыноўнікі, туземнае нямецкае баронства, замежная і мясцовая буржуазія шляхам самай жорсткай эксплёатацыі працоўных мас Латвіі нажывалі мільёны рублёў прыбытку. У параўнаньні з даваенным часам у буржуазна-фашысцкай Латвіі зараз маецца поўны заняпад прамысловасьці. Нават у пэрыод 1923—1927 гг., калі ў Латвіі наглядаўся пэрыод адноснай стабілізацыі, агульная колькасьць рабочых, працуючых на прадпрыемствах, складала $^1/_5$ ліку рабочых даваеннага часу.

Ужо ў пачатку 1928 г. латвійскую прамысловасьць ахапіў глыбокі крызіс, які паралiжаваў галоўныя галіны вытворчасьці. Большая частка прадпрыемстваў перайшла на скарочаны рабочы тыдзень, многія з іх зусім спынілі сваю працу.

З паглыбленьнем крызісу расьце беспрацоўе. У 1932 г. больш паловы прамысловага пролетарыяту Латвіі засталося без работы. Каля 40% рабочых пераведзена на скарочаны рабочы тыдзень (2—4 дні). Зарплата рабочых даведзена да галоднай нормы. Разам з гэтым анулюецца ўсякая соцыяльная ахова: страхаваньне, больнічныя касы і г. д. Рэволюцыйны рух рабочых падаўляецца зьверскім тэрорам латвійскага фашызму.

Слабая, адсталая прамысловасьць Латвіі ня можа заваяваць рынкаў капіталістычнага Захаду. Пад напорам конкурэнцыі яна траціць нават і свой унутраны рынак. Замежны капітал з кожным годам умацоўвае свае позыцыі ў латвійскай прамысловасьці. Такія галіны прамысловасьці, як хэмічная і тэкстыльная, амаль цалкам знаходзяцца ў руках замежнага капіталу. Сучасная буржуазная Латвія зьяўляецца вельмі яскравым паказальнікам загніваньня пасьляваеннага капіталізму.

СССР займае асноўнае месца ў латвійскім прамысловым экспорце. Гандлёвы дагавор СССР з Латвіяй за апошнія 4 гады даў апошняй 90.000.000 руб. прыбытку. Савецкія заказы даюць работу буйнейшым латвійскім фірмам.

Ня гледзячы на гэта, з-за нянавісьці да краіны працоўных і пад уплывам імпэрыялістаў Захаду, латвійская буржуазія тар-

мозіць разьвіцьцё экономічных сувязяў з СССР і пропагандуе орыентацыю на заходнія рынкі.

Экономічны эфэкт гэтай орыентацыі характарызуюць хаця-б наступныя даныя аб гандлі Латвіі з Польшчай:

| | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. |
|---|---|---|---|---|
| Экспорт з Польшчы | 15 млн. лат | 27 млн. лат | 26 млн. лат | 13 млн. лат |
| Імпорт | 7 „ „ | 3 „ „ | 2,1 „ „ | 0,96 „ „ |
| + ці — | —8 „ „ | —24 „ „ | —23,9 „ „ | —12,04 „ „ |

А ўвесь вываз Латвіі ў Польшчу ў параўнаньні з вывазам з Польшчы, складаў:

| 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. |
|---|---|---|---|
| 46% | 11% | 8% | 7,4% |

Латвіі прыходзіцца кожны год пакрываць буйны дэфіцыт па гандлю з Польшчай. Палітычная дружба з Польшчай Латвіі каштуе вельмі дорага. Што тычыцца гандлю Латвіі з СССР, то тут малюнак зусім адваротны. У 1931 г. вываз СССР з Латвіі быў на 16,5 млн. латаў больш увозу. Якраз па гандлю з СССР Латвіі ўдалося пакрыць свой дэфіцыт па балянсу ў гандлі з Польшчай.[1]

## Аграрная рэформа і яе вынікі

Крызіс у латвійскай прамысловасьці пераплятаецца з крызісам у сельскай гаспадарцы. Латвія, якая раней экспортавала збожжа, павінна зараз імпортаваць яго з іншых краін. За апошнія 10 год, у сярэднім, штогодна ўвозіцца ў Латвію па 75 тыс. тон збожжа.

У першыя гады існаваньня буржуазнай Латвіі кіруючая партыя буржуазіі—кулацкі „сялянскі саюз" асноўным напрамкам сельска-гаспадарчай політыкі абвясьціў так званую „політыку данізацыі".

Латвія па ўзору Даніі павінна стаць краінай разьвітай сельскай гаспадаркі. Для гэтай мэты сельскую гаспадарку патрэбна было перабудаваць, бо аграрнае становішча ў Латвіі было небясьпечным для захапіўшай уладу буржуазіі. З аднаго боку, меліся вялікія лятыфундыі нямецкага дваранства, у руках якога знаходзілася 48% усёй зямельнай плошчы. Баронскія маёнткі ў сярэднім былі у 2.000—2.500 га, а паасобныя з іх даходзілі нават да 50.000 га і болей. З другога-ж боку, каля 70% насельніцтва

[1] „Товарищ", № 4—6, 1932 г., стар. 25.

Латвіі было безьзямельным, якое не магла паглынуць заняпалая прамысловасьць і якое стала пагрозай для латвійскай буржуазнай дзяржаўнасьці. На вёсцы патрэбна было ўмацаваць кулацтва—апору пануючай латвійскай буржуазіі. Усе гэтыя задачы павінна была вырашыць так званая аграрная рэформа.

„Да сусьветнай вайны,—піша адзін з латыскіх нацыяналістычных лідэраў,—амаль 70% насельніцтва Латвіі складалася з безьзямельных пролетараў, якія апынуліся ў часе вайны і пасьля заключэньня міру, па прычыне распаду прамысловасьці і разбурэньня сельска-гаспадарчага жыцьця краіны, у бязвыходным становішчы. Такім чынам, каб стварыць дзяржаве здаровую социяльную базу, неабходна было правесьці дэмократычную аграрную рэформу, бо ў іншым выпадку латвійская зямля была-б ахвяравана бальшавізму“ [1].

Латвійскі ўрад, законам ад 16 верасьня 1920 г., правёў сваю „дэмократычную“ аграрную рэформу. Ад памешчыцкіх, монастырскіх і царкоўных зямель было адрэзана, прыблізна, 3,8 млн. гектараў, з якіх утварыўся так званы надзельны фонд. Уласьнікам вялізарных зямельных абшараў пакідалася ад 50 да 100 га зямлі разам з усім інвэнтаром. Як за зямлю, так і за інвэнтар яны не плацілі ні сантыму [2]. Дзяржаўны зямельны фонд складаўся з 1.735.468 гэктараў, з якога па закону павінны былі выдзяляцца новыя гаспадаркі ня звыш 22 га. Гэта аграрная рэформа вырашыла зямельнае пытаньне на карысьць кулакоў, якія павінны былі зьявіцца на вёсцы апорай буржуазнай дыктатуры.

У рамках гэтага разьдзелу мы ня маем магчымасьці даць вычэрпваючага аналізу аграрнай рэформы ў Латвіі. Спынімся толькі крыху падрабязьней на правядзеньні гэтай рэформы ў Латгаліі, у якой жыве пераважная большасьць беларускага насельніцтва Латвіі.

Латвійская буржуазія глядзіць на Латгалію, як на сваю колёнію, з якой яна імкнецца выкачаць наибольш багацьця. Латгалія зьяўляецца, па-першае, крыніцай сыравіны (лён, лес), а па-другое, месцам збыту тавараў і, па-трэцяе, пастаўшчыком таннай рабочай сілы для латвійскай буржуазіі і кулацтва. Так званая аграрная рэформа ў Латгаліі праводзілася ў мэтах колёнізатарскай політыкі. Лічачы Латгалію социяльна небясьпечнай провінцыяй, латвійская буржуазія пачала тут насаджаць латыскае афіцэрства і чыноўніцтва, адначасова ўмацоўваючы сваю апору—латгальскае кулацтва.

„Сыстэма хутароў была праведзена ў інтарэсах кулацтва супроць волі беднякоў. Таргі на хутары ў многіх мясцох ператварыліся ў няпрыкрытую спэкуляцыю. Кулацтва падкупляла землямераў, выцясьняла беднякоў на акраіны з няпрыгоднай зямлёй. Бедняні былі пазбаўлены сэрвітутных зямель для пасьбы

[1] *А. Бильман*, „Новая Латвия“, Рига, 1926 г., стар. 98.

[2] Сантым—дробная грашовая адзінка, якая прыблізна складае 0,37 зал. кап., 100 сантымаў=1 лату.

жывёлы і былі вымушаны скараціць колькасьць сваёй жывёлы або зусім адмовіцца ад яе“. [1]

У зьвязку з прымусовай хутарызацыяй, латгальскае бядняцка-серадняцкае сялянства папала ў фінансавую кабалу зямельных банкаў. У 1931 г. запазычанасьць зямельнаму банку па Латгаліі складала 42 млн. лат. Адначасова з гэтым на плечы працоўных мас Латгаліі ускладаецца непасільны падатковы цяжар. У 1928-29 бюджэтным годзе, з Латгаліі выкачана простых падаткаў 880.000 лат; акцызу і монополій 157.000 лат.

З кожнага жыхара па 37 лат у год. Пачынаючы з 1920 па 1930 г. з Латгаліі выкачана 171.900.000 латаў.

Зразумела, што латгальскае бядняцка-серадняцкае сялянства ня можа справіцца з прогрэсыўна ўзрастаючымі падаткамі: яно заблытваецца ў даўгох. Адбываецца продаж сялянскай гаспадаркі з малатка і ўчарайшы дробны сельскі продуктар сёньня павялічвае армію таннай рабочай сілы для памешчыкаў і кулакоў Латгаліі і для шэрых [2] баронаў і буржуазіі Курляндыі і Ліфляндыі.

Наступныя лічбы вельмі яскрава сьведчаць аб катастрофічным руйнаваньні бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Латгаліі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1926 г. | аб‘чўлены | таргі | на 7 | гаспадарак. |
| 1927 г. | „ | „ | 48 | „ |
| 1928 г. | „ | „ | 133 | „ |
| 1929 г. | „ | „ | 318 | „ |
| 1930 г. | „ | „ | 719 | „ |
| 1931 г. | „ | „ | 782 | „ |

Адначасова з руйнаваньнем бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, на вёсцы ўмацоўвае свае позыцыі кулак. Пролетарызацыя бядняцкага сялянства забясьпечвае яму танную рабочую сілу. Латвійскі ўрад, у выглядзе пазык, асыгнуе вялізарныя сумы грошай на кулацкія гаспадаркі. Робяцца надбаўкі на лён, экспортнае масла і бэкон, якія ідуць выключна ў кулацкую кішэню.

Аграрная рэформа забясьпечыла шэрых баронаў Прыбальтыкі вялізнай арміяй латгальскага батрацтва. За годы існаваньня буржуазнай Латвіі колькасьць сельска-гасп. рабочых павялічылася з 200 да 300 тысяч чалавек. Вясковы пролетарыят Латгаліі знаходзіцца ў надзвычайна цяжкіх умовах. Слабае разьвіцьцё латыскай прамысловасьці, беспрацоўе, скарачэньне эміграцыі, уплыў рэформістаў і іншае дае магчымасьць памешчыкам і кулакам неабмежавана эксплёатаваць с/г. рабочых. Вось як апісвае ўмовы жыцьця вясковага пролетара адна з газэтных корэспондэнцый:

„Мясцовыя кулакі трымаюць сваіх рабочых у такіх памяшканьнях, што яны самі просяцца спаць у хляве. Працаваць прыходзіцца 16—19 гадзін у суткі, ня лічачы часу на кармленьне

[1] „Товарищ“ №. 4—6 1932 г., стар. 41.
[2] Шэрымі баронамі называюцца ў Латвіі кулакі-фэрмэры Курляндыі і Ліфляндыі, якія маюць на некалькі батракоў.

коняй уначы. Звычайная ежа—каша са зьнятым малаком, гарбата з сахарынай“ [1].

Заработная плата сельска-гаспадарчых рабочых даведзена да галоднай нормы. У 1931 годзе яна была зноў зьніжана на 30-50%. На сваіх конфэрэнцыях кулацтва ўстанаўляе мінімум зарплаты. Так на аднэй з такіх конфэрэнцый кулацкі дэлегат Лапін заявіў:

„Ні аднаго сантыму зьверх таго, што ўстаноўлена: хто на гэтым ня можа пражыць, хай памірае з голаду“.

Клясавы вораг на гэтым яшчэ ня спыняецца. Кулакі патрабуюць увядзеньня для батракоў спэцыяльных рабочых кніжак, так званых „воўчых пашпартоў“, каб забясьпечыць контроль над рэволюцыйнымі рабочымі.

Становішча сельгасрабочых пагаршаецца яшчэ тым, што яны амаль не організаваны і пазбаўлены соцыяльнага страхаваньня. Профсаюз с./г. рабочых налічвае зусім недастатковую лічбу членаў, якія вельмі часта знаходзяцца пад уплывам соцыял-фашыстаў. Усё гэта перашкаджае пасьпяховаму змаганьню с/г. рабочых супроць кулакоў.

Ня ў лепшых умовах апынуліся і шырокія масы бядняцкага і серадняцкага сялянства. Кулацкая зямельная рэформа не палепшыла і не магла палепшыць становішча працоўнага сялянства. Яна зрабіла толькі пэўную перагрупоўку клясавых сіл на вёсцы, паглыбіўшы дыфэрэнцыяцыю сярод сялянства. Асноўны цяжар крызісу кладзецца і на плечы бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Кабала банкаў, растаўшчыкоў, кулацтва, узрастаньне простых і ўскосных падаткаў прыводзяць да павялічэньня запазычанасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і, нарэшце, да распродажу іх.

У адказ на бязьлітасную эксплёатацыю і крывавы разгул нарастаючага латвійскага фашызму, усё часьцей і часьцей адбываюцца рэволюцыйныя выступленьні працоўных мас Латгаліі супроць судовых выканаўцаў і банкаўскіх агентаў, якія распрадаюць сялянскую маемасьць. Рэволюцыйнаму ўздыму і абурэньню працоўных мас спрыяе пераможнае будаўніцтва соцыялізму ў Савецкім саюзе.

Масавыя мітынгі протэсту і распаўсюджаньне комуністычных проклямацый у Латгаліі—звычайная зьява. Рэволюцыйную барацьбу працоўных мас Латгаліі фашызуючаяся буржуазія душыць бязьлітасным тэрорам, хваля якога ўзрасла за апошнія годы, асабліва ў прымежных з СССР паветах (Люцынскім і Яўналатгальскім).

Цэлыя вёскі і раёны Латгаліі западозраны ў сымпатыях да латвійскай компартыі і СССР. Масавыя арышты, паліцэйскі тэрор, катаржныя прысуды ў Латвіі праводзяцца толькі на падставе паказаньняў провокатараў і агентаў ахранкі. Найбольшае ўзрастаньне тэрору іменна ў Латгаліі тлумачыцца тым, што на тэрыторыі Латгаліі латвійская буржуазія, пры падтрымцы сусьветнага імпэрыялізму, падрыхтоўвае інтэрвэнцыю супроць СССР.

[1] *И. Ринг.* „Латвийский фашизм в подготовке к интервенции“, 1932 г., стар. 15.

Самым зьверскім тэрорам расчышчаецца позыцыя для гэтай інтэрвэнцыі.

Але ніякімі рэпрэсіямі латвійскі фашызм ня зможа задушыць героічнага змаганьня працоўных мас пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі Латвіі. Мобілізуючы ўсе сілы пролетарыяту і працоўнага сялянства, толькі гэтая партыя змагаецца за сапраўднае вызваленьне ўсіх працоўных мас Латвіі. У сваёй аграрнай програме барацьбы Компартыя Латвіі высоўвае наступныя патрабаваньні: вызваленьне батрацтва і бядняцкага сялянства ад усялякіх падаткаў і максымальнае іх скарачэньне для серадняцкага сялянства; барацьба супроць распродажу сялянскай маемасьці шляхам утварэньня рэволюцыйных сялянскіх комітэтаў; конфіскацыя зямель сельскай буржуазіі з усім с.-г. інвэнтаром і забесьпячэньне зямлёй сельгасрабочых і сялян беднякоў; соцстрахаваньне рабочых, васьмігадзінны рабочы дзень і г. д.

„Комуністычная партыя заклікае ўсе працоўныя элемэнты вёскі стаць разам з пролетарыятам на шлях рэволюцыйнай барацьбы за зямлю, за скасаваньне запазычанасьці, супроць уціску і эксплёатацыі буйнага капіталу, шэрых баронаў і памешчыкаў, супроць фашысцкай рэакцыі і яе апоры—соцыял-фашыстаў, за зьвяржэньне буржуазнай дыктатуры, за рабоча-сялянскую савецкую ўладу ў Латвіі“ [1].

У галіне нацыянальнага пытаньня КПЛ змагаецца за права самавызначэньня Латгаліі да поўнага аддзяленьня яе ад Латвіі, за поўнае нацыянальнае роўнаправе латгальцаў і іншых нацыянальных меншасьцяй; за роўнаправе іх мовы ва ўсіх грамадзкіх і дзяржаўных установах.

Усе гэтыя задачы, пастаўленыя комуністычнай партыяй Латвіі, могуць быць пасьпяхова вырашаны толькі ў выніку пераможнай пролетарскай рэволюцыі.

## Беларуская меншасьць у Латвіі

На тэрыторыі Латвіі пражывае 1.898.859 чалавек, з якіх латвійская буржуазная статыстыка налічвае беларусоў толькі 2,1% (згодна перапісу 1930 г.).

Процант беларусоў, пражываючых у Латвіі, латвійская буржуазная статыстыка яўна зьнізіла. Аб гэтым сьведчаць даныя папярэдніх перапісаў у Латвіі.

Па перапісу 1897 г. на тэрыторыі Латвіі пражывала:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 79.523 чал., | або | 4,1%, |
| „ | „ | 1920 г. | „ | „ | 75.630 „ | „ | 4,74 „ |
| „ | „ | 1925 г. | „ | „ | 38.010 „ | „ | 2,06 „ |
| „ | „ | 1930 г. | „ | „ | 39.876 „ | „ | 2,1 „ |

З гэтай табліцы мы бачым, што лік беларускага насельніцтва ў Латвіі, ужо па перапісу 1920 г., паказаны на 4000 чалавек

[1] Latvijas laukstradneeku, trucigo un videjo zemnieku cinas programa 1932. g. LKP. Centralkomitejas izdevums.

менш, чым па перапісу 1897 г. Лік-жа беларусоў за 5 год (з 1920 па 1925 г.), згодна буржуазнай латыскай статыстыкі, ня толькі ня вырас, а нават паменшыўся на 37.620 чалавек. Чым тлумачацца такія комбінацыі з лічбамі беларускага насельніцтва ў Латвіі? Сапраўдная прычына гэтай зьявы хаваецца ў нацыянальнай палітыцы буржуазнай Латвіі. Палітыка прыгнечаньня „окраин“, якая раней праводзілася царызмам, у Латвіі ня зьнішчана. Яна набыла толькі спэцыфічныя формы, уласьцівыя буржуазнай рэспубліцы. „Окраиной“ для буржуазнай Латвіі зьяўляецца Латгалія. Праводзячы тут колёнізатарскую палітыку, латвійская буржуазія разам з гэтым імкнецца і аблатышваць мясцовае насельніцтва. У мэтах нацыянальнага ўціску працоўных мас Латгаліі выдаецца спэцыяльны закон, адносна якога былы прэм'ер-міністр Скуенек заявіў:

„Старому пакаленьню інародцаў патрэбна проціпаставіць маладое пакаленьне латышоў. Самае галоўнае і рашаючае гэта тое, што ўсходняя частка (Латгалія) нашай дзяржавы бяз гэтага закону не аблатышыцца“.

Адміністрацыйны падзел Латвіі

Акрамя таго, беларуская меншасьць у Латвіі яшчэ дэнацыяналізуецца агентамі польскага фашызму і расійскімі вялікадзяржаўнымі шовіністамі.

Сучасная імпэрыялістычная Польшча ў сваіх імпэрыялістычных імкненьнях „ад мора і да мора“ мае на ўвазе і пэўную тэрыторыю Латвійскай рэспублікі (Латгалію), на якую яна глядзіць, як на Inflanty Polskie, а таму і зараз польскія імпэрыялісты імкнуцца праводзіць тут сваю полёнізатарскую палітыку праз ксяндзоў і польскую школу. Полёнізатарству галоўным

чынам падлягаюць адсталыя беларускія масы каталіцкага веравызнаньня, якіх агенты польскага фашызму і Латвіі залічаюць у палякі. Базай гэтай полёнізатарскай палітыкі ў Латвіі зьяўляюцца польскія памешчыкі, кулакі. Разам з гэтым адбываецца русіфікацыя беларускага насельніцтва Латвіі з боку вялікадзяржаўных чорнасоцендаў. Белаэмігранты былой царскай Расіі знайшлі сабе цёплы прытулак у Латвіі і атрымалі права ўтвараць свае контррэвалюцыйныя організацыі, як напрыклад, „Сокал“ у Латгаліі. Імі ўтворана неофіцыйнае прэс-бюро, якое зьяўляецца крыніцай хлусьні пра Савецкі саюз. У гэтым прэс-бюро фабрыкуюцца „навіны“ як для мясцовага чорнасоценнага органу „Сегодня“, так і для іншых белаэмігранцкіх газэт у выглядзе „інформацыі з Рыгі“. Карыстаючыся ў Латвіі асобнымі правамі, расійскія чорнасоценцы праводзяць сваю русыфікатарскую палітыку сярод беларускага насельніцтва, галоўным чынам праз царкву і школу.

Калі ўлічыць усе факты дэнацыяналізацыі беларускай меншасьці ў Латвіі з боку латвійскага ўраду, польскіх імпэрыялістаў і расійскіх вялікадзяржаўных чорнасоценцаў, тады будуць зусім зразумелы комбінацыі з лікам беларускага насельніцтва ў Латвіі.

Беларусы жывуць галоўным чынам у Латгаліі ў Дзьвінскім, Люцынскім і, часткова, Рэжыцкім паветах, і ў Зэмгаліі ў Ілукстскім павеце. У Дзьвінскім павеце беларусы жывуць найбольш у валасьцёх: Прыдруйскай, Дагдзенскай, Капінскай і Вышкаўскай. У Люцынскім павеце беларускае насельніцтва пражывае галоўным чынам у валасьцёх: Пасінскай, Пылдзенскай, Міхалоўскай.

У Рэжыцкім павеце шмат беларусоў пражывае ў Букмуйжскай воласьці. У Ілукстскім павеце беларусы жывуць у валасьцёх: Борненскай, Бароўскай, Дземенскай, Калкунскай, Скрудалінскай, Саланайскай. Акрамя таго, шмат беларускаіга пролетарызаванага насельніцтва пражывае ў гарадох Латві і працуе батракамі ў кулакоў-фэрмэраў Курляндыі.

Наступная картограма паказвае процант беларускага насельніцтва ў паасобных паветах Латгаліі (гл. картограму на стар. 16).

Пераважная большасьць беларускага насельніцтва Латвіі— малазямельныя і безьзямельныя сяляне, якім аграрная рэформа нічога не дала Дрэннае становішча гэтага сялянства яшчэ больш пагоршылася пасьля хутарызацыі, якую прымусова правяла латвійская буржуазія ў Латгаліі. У выніку гэтай хутарызацыі шмат беларускіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак заблыталася ў даўгох і была прададзена з таргоў. За апошнія гады вельмі хутка расьце распластаваньне беларускай вёскі ў Латгаліі. Дзякуючы латвійскай сталыпіншчыне руйнуюцца сотні бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, учарашнія ўласьнікі якіх сёньня застаюцца ні з чым і ідуць у кабалу да курляндзкага шэрага барона або беларускага кулака. Частка іх, шукаючы ратунку ад галоднай сьмерці, эмігруе ў далёкую Бразылію і Аргентыну, дзе падлягае неабмежаванай эксплёатацыі імпэрыялістычных драпежнікаў.

Беларускія рабочыя Латвіі—выхадцы з пролетарызаванай вёскі ў сваёй масе некваліфікаваныя чорнарабочыя і батракі, больш за ўсіх церпяць ад паглыбленьня эканомічнага крызісу. Шмат іх працуе на лесапілках, транспорце і розных земляных работах. Яны яшчэ мала організаваны.

Лёкаі латвійскай буржуазіі—беларускія нацыянал-фашысты ў Латвіі, як Пігулеўскія, Езавітавы і Ко, усімі сіламі імкнуцца

**Беларускае насельніцтва ў паасобных паветах Латгаліі**




затушаваць нарастаньне рэволюцыйнай сітуацыі і адцягнуць беларускія працоўныя масы ад іх барацьбы за соцыяльна-нацыянальнае вызваленьне пад кіраўніцтвам компартыі Латвіі. Але гэтыя масы пачынаюць разумець, дзе сапраўдны выхад з крызісу, які ўсё больш паглыбляецца, і чаго варта здрадніцкая дэмагогія як беларускіх, так і інш. соцыял-фашыстаў. У гэтым сэнсе характэрным зьяўляецца адзін з лістоў селяніна-бедняка Латгаліі, у якім ён піша:

„Шум трактароў, уздымаючых цаліну па той бок мяжы— у Савецкім саюзе—напамінае, дзе выйсьце, па якому шляху ісьці. Пігулеўскія, Пятрэвіцы—гэтыя здраднікі рабочых і бядняцкіх сялянскіх мас, увесь час каркалі, што соцыял-дэмократы заваюють свабоду і зямлю беднякам. Яны вадзілі і яшчэ шмат каго водзяць за нос. Кажуць аб клясавай згодзе, аб магчымасьці заваяваць без рэволюцыі свабоду і ўладу. Але чым далей, тым горш. Чым далей, тым яскравей для нас вырысоўваецца адзіна магчымы шлях, тым больш яскравымі робяцца мэты, якія намеціла комуністычная партыя, вядучы нас на штурм буржуазіі і памешчыкаў“.[1]

---

[1] „Товарищ“ № 4—6, 1932 г., стар. 177.

# АСНОЎНЫЯ МОМАНТЫ Ў ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ У ЛАТВІІ

## Беларуская контррэвалюцыйная эміграцыя ў Латвіі

У выніку рэвалюцыі ў Расіі распалася шматнацыянальная царская „турма народаў“. Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла шырокія пэрспэктывы для працоўных мас, у тым ліку і для раней прыгнечаных нацыянальных меншасьцяў былой царскай Расіі. Але буржуазія розных нацыянальных колераў праз увесь час вяла і вядзе ўпартае змаганьне супроць дыктатуры пролетарыяту. У гэтым змаганьні беларуская буржуазія выступіла пад сьцягам буржуазнай „народнай рэспублікі“. Яшчэ на Менскім зьлёце 18—31 сьнежня 1917 г. беларускія контррэволюцыянэры абвясьцілі сваю „незалежнасьць“, але скора яны былі змыты разьвіцьцём рэволюцыі.

У 1918 г. пад крылом нямецкіх окупантаў была сфабрыкавана так званая „Рада Беларускай Народнай Рэспублікі“ і „Савет Народных Міністраў“. Творцы гэтых опэрэтачных установ, у часе захопу чырвонымі войскамі Менску ў першых лічбах студзеня 1918 г., вымушаны былі ўцякаць у Горадзеншчыну, Віленшчыну і іншыя мясцовасьці. У Горадню пераехала так званае Беларускае Міністэрства, на чале з „міністрам“ Я. Воронка. Там-жа знаходзіўся і першы пяхотны Гродненскі беларускі полк пад камандай палкоўніка Езавітава.

Усе надзеі беларускіх контррэволюцыянэраў на дапамогу імпэрыялістаў Захаду скончыліся няўдачай. Белапалякі пры падтрыманьні апошніх займалі крок за крокам беларускую тэрыторыю, падаўляючы крывавым тэрором рэволюцыйнае змаганьне працоўных мас Беларусі. Белапалякі ня лічыліся з „незалежніцкімі“ імкненьнямі правадыроў беларускай буржуазіі. У першых лічбах чэрвеня 1919 году Гродненскі беларускі полк быў разброены белапалякамі. Пачалася паніка сярод „змагароў“ за беларускую буржуазную дзяржаву. Некаторыя з іх, як, напрыклад, К. Цьвірка-Гадыцкі і іншыя пачалі „хадайнічаць“ перад палякамі аб далучэньні беларускай тэрыторыі да Польшчы, а іншыя пачалі ўцякаць з Горадзеншчыны. Частка з гэтых уцекачоў асела ў Рызе і ўтварыла сваю так званую Беларускую колёнію ў Латвіі. 7 верасьня 1919 г. у Рызе адбыўся першы сход гэтай колёніі, на якім быу абраны прэзыдыум колёніі ў наступным складзе: Я. Данілюк—старшыня, А. Сьцяпура—яго намесьнік, П. Цьвяткоў—сакратар.

У хуткім часе ў Латвію зьяўляецца прадстаўнік ураду БНР— Цярэшчанка, каб наладзіць сувязь з Латвіяй і іншымі прыбальтыцкімі дзяржавамі. Сьледам за ім прыбывае ў Рыгу так званая Ваенна-дыплёматычная місія БНР у складзе: шэфа місіі— палкоўніка К. Езавітава, дарадцы-падпалкоўніка Р. Шаўковага і сакратара Я. Чарапука. Гэта місія прэтэндуе на дыплёматычнае прадстаўніцтва свайго ўраду БНР у Латвіі і Эстоніі. У гэтых дзяржавах яна знаходзіць гасьцінны прытулак.

Яднаньне беларускіх і латвійскіх контррэволюцыянэраў узмацнілася ў той пэрыод, калі пры дапамозе імпэрыялістаў Захаду Савецкая Латвія была затоплена ў крыві працоўных, калі працягвалася ўзброенае змаганьне з бальшавікамі. Зьвярыная нянавісьць супроць пролетарскай дыктатуры яднала ворагаў рэволюцыі.

Беларускія контррэволюцыянэры сьвядома ішлі да ператварэньня Беларусі ў колёнію заходніх імпэрыялістаў. Нацдэмаўскія экономісты вылічалі ўжо каштоўнасьць концэсій на Беларусі, якія яны меркавалі аддаць у эксплёатацыю Заходняму імпэрыялізму. Так званы „шэф Ваенна-дыплёматычнай місіі БНР" палкоўнік Езавітаў у сваім сакрэтным цыркуляры прапаноўваў беларускім дыплёматам карыстацца наступнай формулай:

„Беларусь—лес, пянька, шкіпідар, запалкі, шкло, скуры, лён, масла, гусі, сена, бульба, сьпірт і цукар".

Збанкрутаваўшая буржуазія Беларусі ўсё яшчэ не трацiла надзеі на Вэрсаль, чакалі адтуль ратунку. У сваёй прывітальнай тэлеграме на імя Ульманіса, прэзыдэнта 1-га буржуазнага латвійскага ўраду, беларускія белаэмігранты ў Латвіі зазначалі:

„Беларусы моцна вераць, што ў супольнай працы на Вэрсальскай конфэрэнцыі Латвія і Беларусь даб'юцца прызнаньня сваіх дзяржаў і дабудуць сабе назалежнае сярод іх месца" [1].

Як вядома, беларускія контррэволюцыянэры не абмяжоўваліся толькі чаканьнем і верай у Вэрсаль, яны праяўлялі і актыўнасьць у барацьбе з Савецкім саюзам. Для гэтага часу характэрна аб'яднаньне сіл беларускай контррэволюцыйнай эміграцыі для ўзброенай барацьбы з Савецкім саюзам.

Ваенна-дыплёматычную місію БНР пачынае цікавіць асоба белабандыта і пагромшчыка Булак-Балаховіча.

Шэф місіі палк. Езавітаў пачынае зьбіраць аб Балаховічу весткі, у выніку чаго і прыходзіць да вываду, што:

. . . „Генэрал Булак-Балаховіч ня толькі не паляк, або літвін, ня толькі самы праўдзівы беларус, але яшчэ і добра сьвядомы ў беларускім пытаньні грамадзянін, добра ведае беларускую літаратуру і мову, і нават сам піша вершы па-беларуску" [2].

Адным словам, белабандыцкі атаман са сваёй бандай быў вельмі патрэбен контррэволюцыйнаму ўраду БНР, які праз

[1] „На чужыне", № 1, Рыга, 1920 г., стар. 4.
[2] Там-жа, стар. 7.

Езавітава зрабіў адпаведныя крокі, каб запрасіць Балаховіча да сябе на службу.

Ня будзе лішнім прывесьці два даволі характэрныя дакуманты, якія сьведчаць аб адзінстве мэт белабандыцкага атамана з так званым шэфам Беларускай-ваенна-дыплёматычнай місіі:

Атаман
Добровольческого Народного
Отряда
14 ноября 1919 года.
№ 734.
Действ. Армія

*Старшыне Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі праз Шэфа Вайскова-дыплёматычнай місіі ў Латвіі і Эстіі палкоўніка Езавітава.*

Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстана для абароны цэльнасьці і непадзельнасьці маёй бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на беларускую службу.

Генэрал-Маёр

*Булак-Балаховіч*"[1]

Рапарт Балаховіча быў з радасьцю прыняты палкоўнікам Езавітавым, а белабандыцкі атаман залічан на „беларускую" службу. Балаховіч у сваю чаргу атрымаў ад Езавітава наступны адказ:

Вайскова-дыплёматычная
місія Беларускай Народнай
Рэспублікі
ў Латвіі і Эстіі
15 лістапада 1919 г.
№ 62
м. Юр'еў

*Атаману даоравольчаскага Народнага атраду генэрал-маёру Станіславу Нікадзімавічу Булак-Балаховічу.*

Грамадзянін генэрал!

Сёнека мною атрымана ад Вас для перадачы старшыні Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі заява аб тым, што Вы як грамадзянін Беларусі лічыце патрэбным стаць на абарону сваёй Бацькаўшчыны, каб забясьпечыць

[1] „На чужыне" № 1, Рыга, 1920 г., стар. 7.

ёй цэльнасьць і непадзельнасьць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Глыбока тронуты і ўсьцешаны Вашай заявай, я срочным чынам напраўляю яе майму Ўраду, які, я ў гэтым упэўнены, будзе вельмі здаволены ёю і, у самым хуткім часе, прышле да Вас паведамленьне аб задавальненьні Вашай просьбы і падзяку ў гатоўнасьці паслужыць Бацькаўшчыне.

Да гэтага часу, па моцы дадзеных мне Радай Міністраў поўнамоцтваў, я выражаю Вам Грамадзянін Генэрал, вялікую падзяку ад імя нашай многапакутнай Бацькаўшчыны і паведамляю Вас, што з гэтага часу Вы з Вашым войскам лічыцеся на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі як Камандзір Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі.

Шэф місіі

палкоўнік *Езавітаў*". [1]

У час перагавораў Балаховіча з Ваенна-дыплёматычнай місіяй БНР, апошняя зьвярнулася да ўраду Эстоніі з просьбай дазволіць атраду Балаховіча... „часова астацца на тэрыторыі Эстоніі, каб закончыць тутака формаваньне і потым перайсьці на Бацькаўшчыну" [2].

На гэтую прапанову эстонскі ўрад згадзіўся.

Аб тым, як зьдзекваўся над працоўнымі масамі белабандыт Балаховіч, яшчэ і зараз добра памятаюць рабочыя і сяляне Беларусі.

Пасьля таго, як спроба ўзброенага змаганьня з бальшавікамі скончылася няўдачай, беларуская контррэволюцыйная эміграцыя шукае новай работы. Для беларускай эміграцыі, асеўшай у Латвіі, работа знайшлася. Латвійская буржуазія ў мэтах тагочаснай сваёй політыкі распачала стымуляваць беларускі буржуазна-нацыяналістычны рух у Латвіі.

У пляны імпэрыялістычнай экспансыі польскай буржуазіі ўваходзяць і часткі латвійскай тэрыторыі, якая, будучы далучана да Польшчы, дала-б апошняй выхад у Бальтыцкае мора па Дзьвіне. Польшча, прэтэндуе, у першую чаргу, на наступныя 6 валасьцей Ілукстскага павету: Борнейскую, Саланайскую, Бароўскую, Скрудалінскую, Дземенскую, Калкунскую.

Пытаньне аб гэтых валасьцёх ужо ня раз ставілася ў Польскім Сойме. За апошнія гады імпэрыялістычныя апэтыты Польшчы павялічыліся ад 6 валасьцей Ілукстскага павету да 2-х паветаў, прылягаючых да важнага стратэгічнага пункту Латвіі—Дзьвінску.

Праз польскую шляхту, памешчыкаў, ксяндзоў і польскую школу буржуазія Польшчы распачала сваю пропаганду ў Латгаліі, лічачы апошнюю „інфлянтамі польскімі".

[1] „На чужыне", № 1, Рыга, 1920 г., стар. 7.
[2] Там-жа, стар. 7.

Каб паслабіць гэтую пропаганду латвійская буржуазія была вымушана стымуляваць беларускі буржуазна-нацыяналістычны рух. На чале гэтага руху была пастаўлена беларуская эміграцыя і мясцовая буржуазна-нацыяналістычная інтэлігенцыя.

З другога-ж боку Латгалія была і засталася для латвійскай буржуазіі найбольш небясьпечнай провінцыяй, дзе сконцэнтраваны асноўныя масы сялянскай беднаты і батрацтва. Латгалія для латвійскай буржуазіі — „крэсы“, якія паводле фашысцкай газэты „Латвіс“ „застаюцца прышчэпленай, але да дрэва не даросшай галінкай“.

На гэтых „крэсах“, дзякуючы драпежніцкаму колёнізатарству латвійскай буржуазіі, усё больш і больш нарастае рэволюцыйная хваля працоўных мас нацыянальных меншасьцяў.

Каб разьбіць гэту хвалю і адцягнуць увагу працоўных мас Латгаліі ад адзінага рэволюцыйнага фронту ў бок нацыяналістычнай барацьбы, было дана некаторае поле дзейнасьці ідэолёгам нацменаўскай буржуазіі, у тым ліку і беларускім „правадырам“.

На невялічкай тэрыторыі Латвіі пражывае цэлы рад нацыянальных меншасьцяў: латгальцы [1], расійцы, беларусы, немцы, палякі, яўрэі, літоўцы і інш., якія разам складаюць каля 50% усяго насельніцтва Латвіі. З гэтай нацыянальнай стракатасьцю павінна была лічыцца латвійская буржуазія, захапіўшая ўладу пасьля 5-месячнай пролетарскай дыктатуры ў Латвіі. Пад пагрозай соцыялістычнай рэволюцыі, хвалі якой пагражалі імпэрыялістычнаму сьвету, і разам з тым, пад напорам працоўных мас, латвійская буржуазія павінна была выдаць больш-менш лібэральную конституцыю, якая не магла не закрануць і інтарэсаў нацыянальных меншасьцяў. 8 сьнежня 1919 году законам аб асьветных установах утвараецца ілюзія аб шырокіх правох нацыянальных меншасьцяў у галіне асьветы. Латвійская буржуазія, прымушаная даць некаторыя правы нацыянальным меншасьцям на адчыненьне школ на роднай мове паставіла на чале гэтых школ нацыянал-здраднікаў нацменаўскага лягеру, якія вельмі хутка знайшлі агульную мову з пануючай латвійскай буржуазіяй.

„Правадырамі“ беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латвіі былі аб‘яўлены: Езавітаў, Пігулеўскі, Сахараў, якія пад шыльдай культурніцтва вялі пропаганду беларускага нацыяналізму. Першым крокам у іх дзейнасьці было адкрыцьцё ў 1921 г. ў Дзьвінску культурна-асьветнага таварыства „Бацькаўшчына“ [2].

[1] Латгальцы самая шматлікая нацыянальная меншасьць ў Латвіі, якая складае 22% усяго насельніцтва Латвіі. Апалёгеты латвійскага вялікадзяржаўніцтва імкнуцца „давесьці“, што латгальцы тыя-ж латышы, а латгальская мова ні што іншае, як дыялект мовы латыскай. Буржуазная статыстыка, залічваючы латгальцаў у латышы, і атрымлівае фальшывую лічбу латыскага насельніцтва—73,4%.

[2] Назва, статут і традыцыі т-ва „Бацькаўшчына“ былі ўзяты ад такога-ж нацыяналістычнага т-ва, якое было утворана беларускімі контррэволюцыянэрамі ў Менску пасьля так званага абвяшчэньня „незалежнасьці“ Беларусі. У Менску гэтае т-ва існавала на працягу 1917-18 г.г. У далейшым беларускія белаэмігранты перанесьлі дзейнасьць т-ва ў Горадню, Беласток, Рыгу, Дзьвінск і інш. мясцовасьці.

Філіялы гэтага таварыства ў хуткім часе адкрыліся ў Рызе, Люцыну і ў іншых мясцовасьцях.

Гэта таварыства па даручэньню латвійскага ўраду і бярэ на сябе організацыю беларускіх пачатковых і сярэдніх школ у Латгаліі. У гэтым-жа 1921 годзе пры міністэрстве асьветы ўтвараецца Беларускі аддзел, на чале якога стаіць Сахараў. У Дзьвінску і Люцыне організуюцца беларускія гімназіі. Дырэктарам першай прызначаецца вядомы контррэволюцыянэр Краскоўскі, а другой—Езавітаў.

Стараньнямі Езавітава былі запрошаны на падмогу новыя кадры з Літвы і іншых дзяржаў. У Латвію прыехалі П. Мядзёлка-Грыб, А. Якубецкі, С. Казека, П. Жэрдзі і іншыя. Акрамя таго кадры вербаваліся з мясцовай беларускай нацыяналістычнай інтэлігенцыі.

Да езавітаўскай групы далучыліся: Э. Вайводзіш, А. Махноўскі, М. Іваноў, Г. Сушынская, Л. Габран і цэлы рад іншых. Каб канчаткова ўмацавацца ў Латвіі Пігулеўскі і Езавітаў прынялі латвійскае подданства.

Ужо ў 1922 г. было адкрыта 50 беларускіх пачатковых школ, 2 беларускія гімназіі і беларускія настаўніцкія курсы. Уся гэта сетка беларускіх навучальных устаноў знаходзілася ў руках беларускіх нацыяналістаў, якія праз школы разгарнулі сваю нацыяналістычную пропаганду. І калі ў склад настаўніцтва беларускіх школ часам траплялі непажаданыя кіраўнікам рэволюцыйныя элемэнты, то іх зараз-жа выкідалі. Аб гэтым сьведчыць ліст Пігулеўскага наступнага зьместу:

„Тыя 27 чалавек, якіх мы выпусьцілі з сярэдняй школы і гадавых вучыцельскіх курсаў, былі, можа быць, і ня зусім цэнныя з боку педагогічнага, але затое яны былі строга нацыянальным элемэнтам; і так трэба было зрабіць ампутацыю: звольніць 20 вучыцеляў ворагаў, з якіх 11 нават па пашпартах ня хочуць лічыцца беларусамі, і на іх месца прызначыць новыя сілы. Сахараў прапанаваў правесьці гэта гэткім чынам: зорганізаваць летнія курсы, на чале якіх стаю я. За лета мы высьветлім самы найгоршы элемэнт і пасьведчаньне аб скончэньні курсаў выдадзім сьвядомай нацыянальнай частцы. Беларускае ўпраўленьне кожны год выдае пасьведчаньні-дазволы працаваць у беларускіх школах,—гэтыя дазволы выдаць толькі тым вучыцелям, у каторых будуць пасьведчаньні нашых курсаў. Каб было формальна юрыдычнай падставай для нявыдачы пасьведчаньня аб скончэньні курсаў, мы прызначылі ўсім іспыты па прадметах беларусаведаньня. Такім чынам увесь цяжар гэтай опэрацыі Сахараў усклаў на нашу групу“ [1].

З гэтага лісту мы бачым, як цяжка было атрымаць пасаду беларускага настаўніка, ня ідучы на службу беларускай буржуазіі. Уся праца беларускіх навучальных устаноў была падпарадкавана падрыхтоўцы нацыяналістычных кадраў. Каб затушаваць клясавую сутнасьць сваёй дзейнасьці, праца праводзілася пад шыльдай нібы-та аполітычнага культурніцтва.

[1] „Беларускі процэс у Латвіі,“ Рыга, 1926 г., стар. 21.

Тым часам наладжвалася сувязь з усёй беларускай контррэволюцыйнай эміграцыяй, якая, разьвеяная па розных кутках Эўропы, далей яднала свае сілы для барацьбы супроць рэвалюцыі, супроць краіны працоўных.

## Беларускі процэс у Латвіі

Далейшае разьвіцьцё беларускага нацыяналістычнага руху ў Латвіі абумоўліваецца як унутраным становішчам латвійскай буржуазнай дзяржавы, так і яе становішчам у сыстэме капіталістычных дзяржаў.

Латвійская буржуазія паступова замацоўвае свае позыцыі. Аграрнай рэформай яна ўмацоўвае кулацтва—апору буржуазнай дыктатуры на вёсцы. Адначасова з гэтым наглядаецца і большы нацыянальны ўціск беларускіх працоўных мас Латгаліі. Гэты ўціск мае цэлы рад прычын.

Беларускае насельніцтва сконцэнтравана ўздоўж савецка-латвійскай мяжы. Вялізарныя дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім саюзе робяць рэволюцыянізуючы ўплыў на беларускія працоўныя масы. Недарма ў прымежнай паласе Латгаліі латвійская буржуазія праводзіць самы дзікі тэрор.

З другога-ж боку, у суседняй Заходняй Беларусі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, узьнялася магутная рэволюцыйная хваля барацьбы беларускіх працоўных мас супроць соцыяльнага і нацыянальнага ўціску польскага фашызму. Шырокі нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі меў свой уплыў і на беларускія працоўныя масы ў Латвіі. Трэба адзначыць, што буржуазная Латвія ў значнай ступені знаходзіцца ў сфэры політычных уплываў фашысцкай Польшчы, якая пры дапамозе імпэрыялістаў Захаду ўмацоўвае Прыбальтыцкі пляцдарм для нападу на Савецкі саюз.

Пад уплывам вышэйпералічаных акалічнасьцяў як унутрыдзяржаўнага, так і зьнешняга характару латвійская буржуазія распачала паход супроць беларускіх працоўных мас. Гэты паход асабліва цьвёрда праводзіўся ў часе так званага беларускага процэсу ў Латвіі, які распачаўся ўвесну 1924 г.

Процэс паказаў, якімі мэтодамі латвійская буржуазія імкнецца праводзіць нацыянальны ўціск і закабаленьне працоўных мас. Удар быў накіраваны супроць беларускага працоўнага насельніцтва ў Латвіі, супроць культурна-асьветных масавых організацый і школьніцтва. Адначасова з гэтым, латвійская буржуазія імкнулася ўзьдзейнічаць процэсам на беларускіх буржуазных ідэолёгаў, каб яшчэ больш падпарадкаваць сабе іх і іхнія організацыі. Такім чынам гэты процэс быў выяўленьнем трэньняў паміж буржуазіяй пануючай нацыі і беларускай буржуазіяй.

Тагочасны дырэктар люцынскай беларускай гімназіі Езавітаў быў арыштаваны і пасаджаны ў турму, дзе і прасядзеў 10 мес., пакуль вялося сьледзтва. На лаве падсудных акрамя Езавітава былі В. Корці, У. Пігулеўскі, Я. Краскоўскі, А. Якубецкі, П. Мядзёлка-Грыб, П. Жэрдзі, М. Іваноў.

Усе падсудныя абвінавачваліся ў тым, што яны ставілі сваёй канчатковай мэтай далучэньне да будучай незалежнай беларускай дзяржавы пэўную тэрыторыю Латвіі—паветы: Дзьвінскі, Люцынскі, Рэжыцкі і частку Ілукстскага, што ідэя беларускай буржуазнай дзяржаўнасьці пропагандавалася праз беларускія школы і т-вы, што ў школах ужываўся падручнік географіі А. Смоліча і географічныя карты, з якіх вынікала, што Латвіяй окупавана частка беларускай тэрыторыі, што настаўнікі ў часе лекцый падкрэсьлівалі, што гэта окупацыя ёсьць зьява часовая, і што з усіх окупаваных частак Беларусі павінна ўтварыцца адзіная непадзельная Беларуская рэспубліка.

Каб зьдзейсьніць свае мэты, кажа акт абвінавачаньня, беларускія нацыяналісты ў Латвіі ўтварылі адзіны фронт з Беларускай замежнай эміграцыяй. Усё гэта выяўляецца з шматлікай перапіскі, якая знойдзена была ў Езавітава і іншых.

Так званы Прэзыдэнт БНР у лісьце да Краскоўскага між іншым піша:

„...са ўсіх цэнтраў Дзьвінск таксама мае значэньне цэнтру... пасьля паўгоду будзе адзіны фронт Вільня—Прага—Дзьвінск—Коўна“ [1].

На гэтым-жа процэсе выкрываецца шматлікая перапіска па пытаньнях адзінага фронту Краскоўскага, Езавітава, Пігулеўскага з Крачэўскім, Ластоўскім, Цьвікевічам, Грыбам і іншымі.

Так, напрыклад, Грыбу ў Празе прапанавалася склікаць беларускі політычны конгрэс, на якім разгледзіць усе непаразуменьні, якія зьявіліся сярод беларускай белай эміграцыі.

Адначасова з гэтым выяўляецца, што беларуская нацыяналістычная організацыя „Бацькаўшчына“ наладзіла сувязь з політычнымі беларускімі эміграцкімі організацыямі і нават дэлегавала на політычную конфэрэнцыю ў Прагу ў 1921 г. сваіх прадстаўнікоў на чале з Езавітавым.

Падамо некалькі вытрымак з рэзолюцыі гэтай конфэрэнцыі, якія кідаюць сьвятло на яўна контррэволюцыйны твар яе ўдзельнікаў.

...„конфэрэнцыя грунтуецца на дэклярацыі Рады Беларускае Народнай Рэспублікі 23/III 1918 г., якая абвясьціла незалежную Беларусь у тых межах, дзе домінуе большасьць беларускага народу...“

„Беларускі народ ляжыць прыгнечаны і зьняважаны сваімі суседзямі, і ў той час, калі ён ня можа кіраваць сваім дабром—маемасьцю, окупанты ўсходу і захаду, як маскоўскія комуністы і палякі, эксплёатуюць і абіраюць беларускі народ“ [2].

Высьвятляецца, што Езавітаў меў сувязь з беларускімі нацдэмамі ў БССР. У адным з лістоў да Езавітава гаворыцца:

„Паважаны К. Б. (Константын Барысавіч Езавітаў—*Я. Д.*). Ваш ліст датычучы вучыцеляў я перадаў комітэту Беларускае прасьветы (Наркомсьвет Беларусі), што пасьля

[1] „Беларускі процэс у Латвіі“, Рыга, 1926 г., стар. 7.
[2] Там-жа, стар. 9, 71-72.

яго будзе прапанавана, сказаць цяжка, хоць сьвядомыя вучыцялі на платформе беларускага Радавага ўраду таксама патрэбны, у зьвязку з далучэньнем да Беларусі Магілеўскае і Віцебскае губэрняў“ [1].

Ліст гэты датаваны 19/XII 1923 г. Ён, відаць, напісаны ў часе перагавораў Езавітава з тагочасным наркомам асьветы БССР— Ігнатоўскім аб прысылцы на працу ў Латвію нацыяналістычна-настроенага беларускага настаўніцтва.

Сувязь Езавітава з беларускімі нацдэмаўскімі коламі ў БССР была выкарыстана латвійскай ахранкай для залічэньня беларускага палкоўніка ў „бальшавікі“.

На гэтым-жа працэсе фігураваў контррэволюцыйны балахоўскі часопіс „На чужыне“, выданы ў 1920 г. у Рызе [2].

Як высьветлілася ў часе працэсу, Езавітаў пэўную колькасьць экзэмпляраў гэтага часопісу хаваў на кватэры і распаўсюджваў яго сярод беларускага насельніцтва ў Латвіі.

У часе працэсу Езавітаў заявіў, што: „...у прадмове часопісу быў покліч да аружнай барацьбы. Гэты заклік ня меў адношэньня да беларусаў, латвійскіх падданых. Гэта аружная барацьба разумелася пад выступленьнем арміі Балаховіча супроць тых ворагаў Беларусі, каторыя ў той час занялі тэрыторыю Беларусі“ [3].

Беларускі працэс у Латвіі яшчэ больш выпукляе контррэволюцыйны твар Езавітава і Ко і іх актыўную ролю ў барацьбе з рэволюцыйнай небясьпекай і СССР.

Каб мець формальную падставу для масавага зачыненьня беларускіх школ, латвійскаму ўраду патрэбна было паказаць, што лік беларускага насельніцтва ў Латвіі нібы не адпавядае сапраўднасьці (асыгнаваньні на школы нацыянальных меншасьцяў латвійскі ўрад рабіў пропорцыянальна ліку насельніцтва гэтых меншасьцяў).

У разгар беларускага працэсу, на якім разглядалася справа „аб беларускай злачыннай організацыі“, у Латгаліі была разгорнута шырокая антыбеларуская кампанія, якая праводзілася аб'яднанымі сіламі латвійскіх нацыяналістаў, польскіх шовіністаў і расійскіх вялікадзяржаўных чорнасоценцаў.

Дэпутат латвійскага сойму Кэмп нават з соймавай трыбуны заяўляў, што беларусы ў Латгаліі зусім не беларусы, а „былыя латгальцы“ і што трэба іх зноў зрабіць латгальцамі [1].

[1] „Беларускі Працэс у Латвіі“, Рыга, 1926 г. стар. 16.

[2] Часопіс „На чужыне“ быў выданы ў колькасьці каля 2.000 экз. і вышаў толькі першым нумарам. Пасьля ўступнага рэдакцыйнага артыкулу ў ім перадрукаваны верш Я. Купалы „Думкі беларуса на чужыне“, а побач зьмешчаны верш белабандыцкага пагромшчыка Булак-Балаховіча „Покліч бацькі“. Далей апісваюцца першыя крокі беларускай контррэволюцыйнай эміграцыі ў Латвіі, Эстоніі, Літве. Тут-жа зьмешчаны і рапарт Балаховіча так званаму шэфу Ваенна-дыплёматычнай місіі БНР палкоўніку Езавітаву аб залічэньні Балаховіча на „беларускую“ службу. Часопіс ілюстраваны портрэтамі Езавітава, Балаховіча, Крачэўскага, Грыба, Мамонькі і інш. членаў контррэволюцыйнай банды.

[3] „Беларускі працэс у Латвіі“, Рыга 1926 г., стар. 27.

Расійскія-ж вялікадзяржаўнікі „даводзілі“, што няма ў Латвіі беларусоў, а ёсьць толькі „русские“, а беларуская мова гэта нішто іншае, як „говор“ рускай мовы.

Польскія шовіністы праз ксяндзоў „папулярызавалі“ сярод адсталага беларускага насельніцтва Латгаліі „ісьціну“ аб тым, што кожны каталік, дзе-б ён ні радзіўся, ужо ёсьць паляк.

Пасьля такой падрыхтоўчай кампаніі ў 1925 г. быў праведзены ўселатвійскі перапіс насельніцтва. У выніку гэтага перапісу беларускага насельніцтва ў Латвіі аказалася толькі 38.010 чал., у той час, калі па перапісу 1920 г. беларусоў зарэгістравана 75.600 чал.

Опэруючы напалову скарочанай лічбай беларускага насельніцтва ў Латвіі, латвійскі ўрад пачаў нібы на „законных“ падставах закрываць беларускія школы. Ужо ў 1925 г. з 50 беларускіх школ засталося толькі 33. У студзені м-цы 1925 г. вынесена была пастанова аб ліквідацыі Беларускага аддзелу пры міністэрстве Асьветы, а 10-га ліпеня таго-ж году закрыта Люцынская беларуская гімназія. Халопскую ролю беларускіх буржуазных дзеячоў улічыў латвійскі буржуазны суд, калі выносіў сваю пастанову па справе так званай „беларускай злачыннай арганізацыі“. Зусім не выпадкова, што:

„...Суд даходзіць да вываду, што беларускі вызваленчы рух скіраваны *процi радавае Расеi* і Польшчы, але ня Латвіі, і што дзеля таго, што хоць падсудныя Езавітаў, Краскоўскі, Пігулеўскі, Якубецкі, Мядзёлка-Грыб, Корці, Жэрдзі прымалі ўдзел у ім і праводзілі ідэю незалежнае і непадзельнае Беларусі, гэта ім нельга залічыць у віну“. [1]

Усе падсудныя былі апраўданы. Пасьля сканчэньня процэсу, асобам, ня маючым латвійскага падданства: Краскоўскаму, Мядзёлцы-Грыб, Якубецкаму было прапанавана пакінуць Латвію. Скрываючы свае контррэволюцыйныя намеры і прыкідваючыся прызнаньнем Савецкай улады, высланыя з Латвіі Краскоўскі і Мядзёлка-Грыб атрымалі амністыю ад ўлады рабочых і сялян, але яны ашукалі яе давер'е. Праз некаторы час быў выкрыты іх сапраўдны контррэволюцыйны твар.

Няма нічога дзіўнага, што яны былі прыняты вельмі чула сваімі старымі клясавымі прыяцелямі нацдэмамі БССР. Былы дырэктар Дзьвінскай беларускай гімназіі—Краскоўскі ператварыўся ў доцэнта Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту і быў членам Прэзыдыуму Дзяржпл яну, дзе, па сутнасьці, праводзіў сваю контррэволюцыйную політыку. А таму зусім невыпадковым зьяўляецца яго прызнаньне ў часе разгрому нацдэмаўшчыны ў БССР.

„Мы павінны былі згадзіцца,—кажа Краскоўскі,—і падтрымліваць установку полёнофільскай часткі ва ўсёй нацыянал-дэмократычнай рабоце, у прыватнасьці ўстаноўку на інтэрвэнцыю і ўзброенае зьвяржэньне Савецкай улады. Для дасягненьня гэтых задач апораю павінна было зьявіцца заможнае кулацкае сялянства і антысавецкая частка гарадзкога насельніцтва. Для

[1] „Беларускі процэс у Латвіі“, Рыга, 1926 г., стар. 72.

ваеннага кіраўніцтва масамі ў гэты момант намячалася скарыстаньне кадраў старога афіцэрства".[1]

Відаць, палкоўніку Езавітаву, як старому „спэцу", у гэтай контррэвалюцыйнай справе прызначалася не апошняе месца.

## „Зьмена вех"

Скончылася грамадзянская вайна. Працоўныя масы БССР пад кіраўніцтвам Комуністычнае Партыі перамаглі окупантаў і выгналі іх з краіны. У выніку Рыскага міру, ад вызваленай Беларусі імпэрыялістамі Захаду была адарвана Заходняя частка Беларусі, якая яшчэ і сёньня стогне пад пятой польскага фашызму.

На месцы раней прыгнечанай царскай „окраины" утварылася Савецкая Беларусь, якая з вялізарным уздымам пачала адбудоўваць прамысловасьць, сельскую гаспадарку. Партыя бальшавікоў распачала новую экономічную політыку, якая зьявілася адзіным шляхам да пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

Нацдэмы ў БССР і контррэволюцыйная беларуская эміграцыя хацелі выкарыстаць НЭП для рэстаўрацыі капіталізму. Часовае дапушчэньне капіталістычных элемэнтаў у рамках НЭП'у абудзіла ў іх надзеі на магчымасьцьператварэньня соцыялістычнай сыстэмы гаспадаркі ў буржуазную. Гэта прыводзіла некаторыя беларускія контррэволюцыйныя элемэнты да новай тактыкі ў іх антысавецкай барацьбе.

Частка беларускай контррэволюцыйнай эміграцыі пачала шукаць магчымасьці звароту ў БССР, каб тут, прыстасаваўшыся да савецкіх умоў, працягваць сваю контррэволюцыйную справу. Зьменавехаўская тактыка беларускай контррэволюцыйнай эміграцыі была фактычна аформлена на другой беларускай нарадзе ў Бэрліне ў кастрычніку м-цы 1925 г. Старшынёй гэтай нарады быў неадменны дэлегат з Латвіі Езавітаў. Асноўным дакладам на гэтай нарадзе быў даклад А. Цьвікевіча аб становішчы ў Заходняй Беларусі пад польскай окупацыяй і аб становішчы ў Савецкай Беларусі.

У дакладзе рубам ставіцца пытаньне аб зьмене тактыкі ў адносінах да БССР і адначасова выяўляецца поўнае банкруцтва былых „міністраў" ураду БНР. Характэрна ў гэтым дакладзе расчараваньне А. Цьвікевіча політыкай Польшчы ў окупаванай Заходняй Беларусі, хаця з моманту ўрачыстага спатканьня нацдэмамі свайго збавіцеля пана Пілсудзкага ў Менску і да другой нацыянальнай нарады ў Бэрліне, прайшло ўжо і ня так шмат часу.

Поўнай згоды на гэтай нарадзе дасягнута ня было. Менш гібкія ў гэтых адносінах беларускія эсэры, на чале з Мамонькай, усё яшчэ ўпарта заяўлялі: „Ні Масква, ні Варшава!"—і дэмонстрацыйна пакінулі нараду. Большасьцю галасоў прапанова

[1] „Навука" на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі", Менск, 1931 г., стар. 80.

А. Цьвікевіча аб „орыентацыі“ на БССР і аб роспуску ўраду БНР—была прынята. Толькі старшыня нарады Езавітаў выарашыў ад галасаваньня ўстрымацца.

„Было-б найвялікшай памылкай бачыць у нацдэмаўскай „зьмене вех“ акт безагаворачнай капітуляцыі разьбітага ворага або шчырае самараззбраеньне прыхільнікаў збанкрутаваўшай ідэолёгіі,—кажа акадэмік С. Я. Вольфсон. „Зьмена вех“ Некрашэвіча, Цьвікевіча, Ластоўскага была толькі стаўкай на „рэальную політыку“ пры няўдала склаўшайся сітуацыі з мэтай максымальна выкарыстаць гэту сітуацыю ў сваіх клясавых мэтах. Падобна таму, як Устралаў—Ключнікаў спадзяваліся на тое, што Савецкая ўлада адбудуе „единую неделимую“, Некрашэвіч—Ластоўскі зьвязалі свае надзеі з тым, што Савецкая ўлада будуе Беларускую дзяржаву“. [1]

Пад беларускім бэрлінскім зьменавехаўствам трэба разумець тактычны манэўр клясавага ворага, які замест лабавой атакі спрабаваў абыйсьці з флянгу. Гэта ў хуткім часе сформуляваў Цьвікевіч пасьля звароту з эміграцыі:

...„Калі нельга правесьці сваю програму „ударам у лоб“, то трэба праводзіць яе стараною. Важна каб правільны быў прынцып. Калі прынцып справядлівы, дык рэшта становіцца толькі пытаньнем часу, дысцыпліны, тактыкі і натугі змаганьня“. [2]

„Зьменавехаўскія“ прынцыпы другой беларускай контррэволюцыйнай нарады ў Бэрліне сталі асновай для большасьці беларускай эміграцыі. Асеўшы ў Латвіі Езавітаў у сваёй газэце „Голас Беларуса“ зьмяшчае падрабязныя інфармацыі аб культурных дасягненьнях БССР, якія ён успрымае ў аспэкце нацдэмаўшчыны. У гэтай-жа газэце зьмяшчаецца заклік „Беларусу-эмігранту“ вяртацца да „хаты“—гэта значыць у БССР, дзе, па думцы Езавітава, будуецца „хата мужыцкай дзяржаўнасьці“:

Прадудзела дуда.
Прагучэў покліч усім:
„Беларусы,—да хаты!“
„Вярні-і-сь!
У каго вушы—адчуй!
Хто заспаўся—прасьніся!
Не марудзь!
Не чакай!
Не дзівісь!
*На Нямізе свой дом пачала Беларусь.*
*Па-мужыцку зрубіла цяп-ляп.* (курсыў мой. *Я. Д.*).
Ты ў Эўропе сядзеў,
На чужое глядзеў,
Мо' навучыўся—
Паможаш так-сяк!
Быў пажар, і... згарэў!
Быў цяжар, і... прайшоў!

[1] „Навука“ на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі“, Менск—1931 г., стар. 74.
[2] Там-жа, стар. 75.

Усё пражыў і здалеў
Хаўрус нашых братоў!
Ноч прайшла—сьвеціць дзень.
Спала з сэрца як цень,
Дум аб помсьце гара.
Дык—у дарогу!
Да хаты!
Пара![1]

Як вядома, гэты кліч не застаўся гукам у пустыні. З усіх куткоў Эўропы пачалі з фальшывым „покаянием“ вяртацца да „хаты“ гандляры працоўнымі масамі Беларусі. Іх стаўка была біта, але яны ўсё яшчэ мелі надзею адыграцца.

Ластоўскі ў 1927 г., прыехаўшы ў Рыгу, падрыхтоўвае глебу праз езавітаўскую газэту „Голас Беларуса“ для паездкі ў БССР. У гэтай газэце зьяўляецца „зьменавехаўская“ перадавіца Ластоўскага пад гучным загалоўкам: „*Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі грамады працоўных людзёў!*“ Гэты артыкул заключае ў сабе спробу падвесьці тэорытычную базу пад „зьмену орыентацыі“ ў бок БССР. Пасьля агульных разважаньняў аб выніках імпэрыялістычнай вайны і аб ролі Лігі нацый, Ластоўскі „абгрунтоўвае“ сваю, праўда, ня зусім новую „тэорыю“.

„Беларускіх капіталістаў няма, як няма ў нас свайго грашавітага мяшчанства (буржуазіі). Цэлых сто процантаў нашага народу складаецца з малазямельнага сялянства, гарадзкога і вясковага пролетарыяту, ды з стасункова невялікай групы працоўнай інтэлігенцыі“. [2]

Па думцы Ластоўскага, толькі беларускі народ ня мае сваёй нацыянальнай буржуазіі. На Захадзе буржуазія ёсьць і яна ўвесь час імкнецца падняволіць беларускі народ, навязаць яму замест сваёй „мужыцкай“ культуры культуру буржуазную, а таму пэрспэктыў для свайго адраджэньня беларускі народ пад уплывам буржуазнага Захаду мець ня будзе. Адзіны ратунак, Ластоўскі бачыць нібы у Савецкай Беларусі. Беларускую контррэволюцыйную інтэлігенцыю,—якая была ў эміграцыі, ён называе працоўнай інтэлігенцыяй, якая нібыта і змагалася за тое жыцьцё, якое зараз будуецца працоўнымі ў БССР.

„Беларуская працоўная інтэлігенцыя, якая змагалася за адраджэньне свайго народу і яго дзяржаўна-вызваленскія ідэалы, мела на відоку акурат тыя соцыялістычныя ідэалы, якія цяпер рукамі Радзянскай улады праводзяцца ў жыцьцё“, —гаворыць Ластоўскі ў вышэй цытаваным артыкуле.

Адсюль ім робіцца вывад, што беларускім эмігрантам няма чаго бадзяцца за межамі, а трэба вяртацца да „дому“, бо іх там „сустрэнуць палямі, лясамі грамады працоўных людзёў“.

У 1927 г. Ластоўскі апынуўся ў Менску, дзе і працаваў на пасадзе дырэктара Беларускага дзяржаўнага музэю. Але сувязь Езавітава з Ластоўскім і іншымі „даследчыкамі“ беларускай

[1] „Голас Беларуса“—1926 г. № 25. Рыга.
[2] Там-жа, 1927 г. № 55.

„самабытнасьці“ ня спыняецца. Па іх узору Езавітаў у Латвіі наладжвае краязнаўчыя гурткі і дае ім свае інструкцыі.

Аб'яднаньне былога беларускага палкоўніка з нацдэмамі БССР даходзіла да таго, што Беларускаму дзяржаўнаму музэю, Езавітаў прыслаў праедзенае мольлю абмундыраваньне з ордэнам „сьв. Ефрасіньні Полацкай“, які быў прыняты ў бандзе Балаховіча, як вышэйшая ўзнагарода „за адвагу“.

Вось перапіска Езавітава з тагочасным дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю Ластоўскім:

„У Б. Д. М. Гэтым маю гонар паведаміць, што ў мяне з 1919 г. ёсьць колекцыя поўнага абмундыраваньня беларускага войска („Асобны атрад Бел. Нар. Рэспублікі“), што фармiравалася са згоды і пры падтрымцы Эстонскага Ураду.

Колекцыя гэта складаецца з такіх рэчаў:

1. Шапка афіцэра артылерыі з належнымі ёй дзьвюма кукардамі.
2. Шапка афіцэра кавалерыі.
3. Кукарда пяхотнага жаўнера (шапка папсавана мольлю).
4. Рубаха з афіцэрскімі адзнакамі (галуны на каўняры ў розных, залежна ад чыну, комбінацыях).
5. Штаны.
6. Боты.
7. Форменны рамень-пояс з наплечным да яго рамнем.
8. Афіцэрскі цясак, які насіўся замест шаблі.
9. Беларускіх колераў цямляк да цесака.
10. Белы эмалёвы з пазалочанымі кантамі ордэнскі шасьцікантовы крыж—„Беларускі Крыж сьв. Ефрасіньні Полацкай“, які быў прыняты ў Асобным Атрадзе, як вышэйшая ўзнагарода „за адвагу“ (аналёгічна расійскаму „Георгію“).

Усе гэтыя рэчы я хацеў-бы спрэзэнтаваць Бел. Дзярж. Музэю ў гістарычны аддзел.

Калі не памыляюся, дык толькі адзін я ў свой час паклапаціўся аб набыцьці ўсіх гэтых рэчаў дзеля гістарычнай памяткі...

З грам. прывіт. *К. Езавітаў*“.[1]

Усё гэта з падзякай было прынята Ластоўскім і захоўвалася ў музэі, як гістарычная „каштоўнасьць“.

Контррэволюцыйныя беларускія эмігранты, організатары белабандыцкіх банд, асеўшыя па той бок мяжы, у шчыльным контакце з нацдэмамі БССР праводзілі сваю контррэволюцыйную работу.

У 1926 годзе ў Менску была праведзена змычка беларускай эміграцыі з нацдэмамі БССР у час так званай акадэмічнай конфэрэнцыі. На гэтую конфэрэнцыю з Латвіі прыехалі вядомыя беларускія нацыянал-фашысты Пігулеўскі і Езавітаў, а разам з імі латвійскі буржуазны пісьменьнік Райніс і профэсар Блессэ. Апошні, пасьля свайго звароту з акадэмічнай конфэрэнцыі у рыскай фашысцкай газэце пісаў аб БССР, што:—...„ня гледзячы на

[1] „Навука“ на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі“, Менск—1931 г., стар. 231-232.

ўплыў комуністаў, нацыянальныя элемэнты больш моцныя, чым комуністычныя, чаму не выключаецца мажлівасьць, што нацыяналізм возьме верх над комунізмам“. [1]

Ня спраўдзіліся надзеі буржуазнага профэсара; праваліласся і ўся контррэволюцыйная справа беларускай нацдэмаўшчыны.

Беларускія працоўныя масы, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, зьнішчылі пляны нацдэмаў.

Ператварэньне Беларусі ў індустрыяльна-аграрную краіну, ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, пасьпяховае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі—усё гэта выбіла ґрунт з-пад ног разгромленай беларускай нацдэмаўшчыны, недабітыя рэшткі якой яшчэ і зараз імкнуцца „ціхай сапай“ працягваць контрабандай сваю працу.

Але беларускія буржуазныя эпігоны па той бок мяжы ня спыняюць сваёй контррэволюцыйнай работы. Пры дапамозе імпэрыялістаў Захаду яны ўсё яшчэ марыць аб тым, каб уваскрэсіць струхнелы труп БНР.

[1] „Навука“ на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі“, Менск, 1931 г. стар. 79.

# ОРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ У ЛАТВІІ і ФОРМЫ ІХ РАБОТЫ

## Таварыства беларускіх выбаршчыкаў

Латвійская буржуазія, разграміўшы ў 1925 г. у часе так званага „беларускага працэсу“ палову беларускіх школ, дала Езавітаву і Ко магчымасьць працягваць сваю здрадніцкую работу. Свае 10-цімесячнае зьняволеньне Езавітаў імкнецца тлумачыць як „пакуту“ за „беларускую“ справу, каб прыцягнуць гэтым да сябе ўвагу беларускіх працоўных мас.

Увосень 1925 г. павінны былі адбыцца чарговыя выбары ў Латвійскі сойм. Да гэтых выбараў пачалі рыхтавацца і беларускія нацыяналісты ў Латвіі. У маі месяцы імі была ўтворана організацыя пад назвай „Таварыства беларускіх выбаршчыкаў у дзяржаўны сойм, у павятовыя і гарадзкія самаўрады ў Латвіі“

„У гэтай сваей барацьбе,—піша Езавітаў,—беларусы шукаюць і выбіраюць зусім лояльныя шляхі, прадугледжаныя і намечаныя латвійскай констытуцыяй. Да ліку гэтых шляхоў належыць перш за ўсё прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у розных мясцовых самаўрадах, а затым і ў Дзяржаўным Сойме і яго комісіях“.[1]

Выбраўшы сабе „лояльныя шляхі, прадугледжаныя і намечаныя латвійскай констытуцыяй“, беларускія нацыянал-здраднікі пропагандуюць „тэорыю“ аб тым, што ў Латвіі існуюць выключна толькі беларускія працоўныя масы, пазбаўленыя чамусьці „сваёй“ буржуазіі. Ёсьць толькі „аднародная“ беларуская нацыянальная меншасьць, якой прапануецца, не разьбіваючыся на партыі і групы, дружна галасаваць за „заслужонага“ палкоўніка Езавітава.

У 1925 г., падводзячы ітогі першаму зьезду „Таварыства беларусоў-выбаршчыкаў“, гэты палкоўнік пісаў: „Адналітасьць беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі, якая складаецца выключна з працоўных элемэнтаў—сялян, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі,—прывяла да таго, што беларусам не патрэбна было разьбівацца на партыі і групы і програма таварыства была прынята бяз спрэчак, бо адпавядала патрэбам усяе беларускай меншасьці“.[2]

[1] „Голас Беларуса“, № 8, 1925 г., Рыга.
[2] Там-жа.

Ясна, што клясавая дыфэрэнцыяцыя беларусоў была зусім не патрэбна для кампаніі „выбаршчыкаў". Паглыбленьне гэтай дыфэрэнцыяцыі толькі лішні раз падкрэсьліла-б, што працоўнаму беларускаму насельніцтву ў Латвіі не па шляху з сябром белабандыта Балаховіча і прадстаўніком беларускага кулацтва.

Але што-ж гэта была за праграма, якая нібы та адпавядала патрэбам усей беларускай меншасьці ў Латвіі?

Уся гэта праграма была складзена так, каб прывабіць да сябе беларускае насельніцтва сваёй „дэмократычнасьцю". Тут мы знойдзем патрабаваньні накшталт таго, што зямлёй павінны надзяляцца толькі тыя, хто працуе на ёй уласнаручна, што павінна быць абмежавана эксплёатацыя рабочых капіталістамі, што беларусам патрэбна ў межах латвійскай дзяржавы, нацыянальна-культурная аўтономія і г. д. А побач з гэтым зьмяшчаецца таксама запэўненьне у лёяльнасьці да латвійскай буржуазіі і латвійскай буржуазнай дзяржавы, якая нібы забясьпечвае „роўныя правы для ўсіх грамадзян".

„Таварыства падтрымлівае незалежную Латвійскую дзяржаву, якую мысьліць у форме дэмократычнай рэспублікі, ахопліваючай сучасныя латвійскія землі і *забясьпечваючай у іх межах роўныя правы для ўсіх грамадзян і нацыянальна-культурную аўтономію ўсім меншасьцям*" [1] (курсыў мой—*Я. Д.*).

Такім чынам беларускія нацыянал-фашысты ў Латвіі выяўляюць тут сваю халопскую задаволенасьць тымі мізэрнымі правамі ў галіне школьніцтва, якія вымушана была даць латвійская буржуазія нацыянальным меншасьцям, каб утварыць ілюзію „нацыянальна-культурнай" аўтономіі. Гэтай ілюзіяй латвійская буржуазія імкнецца прышчапіць працоўным масам нацыянальных меншасьцяў ідэю буржуазнага нацыяналізму і тым самым разьбіць іх інтэрнацыянальнае адзінства ў барацьбе супроць буржуазіі. Гэту сваю палітыку латвійская буржуазія праводзіць праз буржуазных ідэолёгаў нацыянальных меншасьцяў.

Падкрэсьліваючы клясавы сэнс буржуазнай культурна-нацыянальнай аўтономіі т. Ленін у 1913 г. пісаў:

„Культурна-нацыянальная аўтономія" азначае самы ўтончаны і таму самы шкодны нацыяналізм, азначае разбэшчаньне рабочых лёзунгам нацыянальнай культуры, прапаганды глыбокашкоднага і нават антыдэмократычнага разьдзяленьня школьнай справы па нацыянальнасьцях. Адным словам, інтэрнацыяналізму пролетарыяту гэтая праграма супярэчыць бязумоўна, адпавядаючы толькі ідэалу нацыяналістычных мяшчан". [2]

Беларускія „выбаршчыкі" выступілі са сваімі двума сьпісамі. Адзін сьпіс пад № 30 быў прызначаны для Латгаліі (паветы: Люцынскі, Рэжыцкі і Дзьвінскі), а другі сьпіс пад нумарам 19 прызначаўся для Зэмгаліі (паветы: Ілукстскі, Якабштацкі і інш.). Абодвы сьпісы ішлі пад загалоўкам „Аб'яднаны сьпісак безьзямельных, рабочых і малазямельных грамадзян". Далей тлумачылася, што ў сьпісы ўваходзяць працоўныя беларускія эле-

[1] „Голас Беларуса" Рыга, 1925 г.
[2] *Ленін*, собрание соч., т. XVII, 2-ое изд., стар. 118.

мэнты і нацыянальна-соцыялістычныя дзеячы. На першых мясцох у гэтых сьпісах аказаліся такія „працоўныя“ элемэнты, як К. Езавітаў—былы беларускі палкоўнік, М. Дзямідаў—былы афіцэр „беларускага“ войска, Л. Квэст—юрыст, Д. Мяжэцкі—кулак. Далей сьпісы папаўняліся імёнамі нацыяналістычна-настроеных настаўнікаў, якія праявілі сябе на буржуазна-нацыяналістычнай рабоце і некалькіх кулакоў і падкулачнікаў.

Як і трэба было чакаць, гэтыя сьпісы ў часе выбараў ня былі популярнымі. Ні адзін член з гэтай кампаніі ня быў праведзены ў сойм. Не дапамагла тут і дэмагогія „Таварыства выбаршчыкаў“.

Гэты факт поўнага правалу беларускіх буржуазных кандыдатур сьведчыць аб тым, што беларускі нацыяналізм у Латвіі не знаходзіць апоры сярод шырокіх мас беларускага насельніцтва. Гэту акалічнасьць яшчэ ў той час улічыў больш спрытны беларускі соцыял-фашыст Пігулеўскі. Ён уключыў сваю кандыдатуру ў сьпіс латвійскіх соцыял-дэмократаў і дзякуючы гэтаму быў збраны членам сойму.

## Гаспадарчая програма і організацыі

Аграрны крызіс асабліва балюча адбіваецца ў Латгаліі, дзе латвійская буржуазія праводзіць сваю колёніяльную політыку. У асабліва цяжкім становішчы знаходзяцца батрацкія і бядняцка-серадняцкія пласты латгальскай вёскі. Беларускія нацыянал-фашысты шукаюць выхаду з аграрнага тупіка ў кулацкай аграрнай програме і ў так званай „позытыўнай працы“. На стар. газэты „Голас Беларуса“ зьмяшчаецца наступнае:

„Трэба ўжо раз назаўсёды зразумець, што на вёсцы нам даўно ўжо зрабілася цесна. Тыя, хто можа астацца на зямлі і мае на вёсках зямлю, павінны пабіцца на хутары, або зорганізавацца ў пасёлкі, і заняцца падоймам і паляпшэньнем сваёй гаспадаркі: пераходзіць на многапольле, заводзіць сельска-гаспадарчыя машыны, заводзіць малочную гаспадарку, кураводзтва, жывёлагадоўлю. На адным лёне ды жыце—цяперыка—не утрымацца ды і гадоўля сьвіней, напрыклад, куды выгадней, чым продаж жыта. Тыя, каму зямлі на вёсцы няма,—павінны заняцца іншымі справамі. Частка павінна ўзяцца за абслугоўваньне вёскі ў якасьці рамесьнікаў, дробных гандляроў, або коопэратараў (цяперака ў беларускіх вёсках і рамесьнікі, і крамнікі, і коопэратары, у пераважнай большасьці, не беларусы), а ўсе іншыя павінны з вёскі высяліцца і знайсьці сабе працу па гарадох Латвіі, або нават эміграваць за мяжу, напрыклад, у Канаду“.[1]

Вось рацэпты беларускіх нацыянал-фашыстаў у зямельным пытаньні.

Сваяасаблівая сталыпіншчына тут пераплятаеццца з цынічнымі парадамі пролетарызаванаму сялянству ўзяцца за коопэрацыю, рамесьніцтва, крамніцтва.

[1] „Голас Беларуса“, № 36, Рыга, 1926 г.

Уся вышэй пададзеная пісаніна беларускіх кулацкіх ідэолёгаў накіравана на тое, каб апраўдаць сталыпінскую політыку латвійскай буржуазіі ў аграрным пытаньні. Беларускі кулацкі часопіс „Гаспадар“ цалкам падтрымлівае латвійскую буржуазію ў яе політыцы „данізацыі краіны“. Абвяшчаючы сваім ідэалам моцную фэрмэрскую гаспадарку датчан, голяндцаў, немцаў і інш., беларускія нац. фашысты ў Латвіі імкнуцца разам з тым абдурыць бядняцкае сялянства тым, што нібыта ўпартай працай яно здолее павысіць свой дабрабыт. Так у аднэй з перадавіц „Гаспадара“ мы чытаем:

„Хто чытае кніжкі і газэты, хто езьдзіць за граніцу і аглядае жыцьцё людзей у чужых краёх, той і бачыць, што і там ня ўсе людзі заможныя, што і там ёсьць бедныя, але-ж там апошнія жывуць лепш, чым у нас. Ня будзем гаварыць пра ангельцаў, французаў, немцаў, голяндцаў, датчан, швэдаў і др., у якіх часта бедны фабрычны рабочы жыве ў лепшых абставінах, чым іншы беларускі гаспадар, маючы ўласную хату і кавалак зямлі...

Рупныя ангельцы ня толькі дасягнулі дабрабыту у сябе на астравох, але распаўсюдзіліся ў Амэрыку, Афрыку, Азію і па усяму сьвету...

Возьмем-жа з іх прыклад, будзем вучыцца, каб прасьветліць свой розум, будзем меркаваць, каб менш траціць працы і больш мець карысьці ад яе. Будземо напружанаю працаю дабываць сантымы, ашчадней траціць іх, зьбіраць на агульную закупку зямлі, скаціны, ці гаспадарчых рэчаў. Трудна, цяжка будзе напачатку, бо толькі мукамі дастаецца чалавеку ўсякі набытак, толькі натугаю, потам і крывавым мазалём палягчаецца гора беднага жыцьця. Тым мілей і саладчэй пасьля мук набыткі“. [1]

Такім чынам, ідэалам для беларускіх кулацкіх ідэолёгаў зьяўляецца фэрмэрскі тып сельскай гаспадаркі імпэрыялістычнага захаду. Аднак асабліва захоплены яны ангельскім імпэрыялізмам, які так шырока праявіў свае драпежніцкія уласьцівасьці ў адносінах да колёніяльных народаў Азіі, Афрыкі, Амэрыкі.

Праз газэту „Голас Беларуса“ распачынаецца кампанія за ўтварэньне беларускіх коопэратываў, за адчыненьне пазычковых таварыстваў. У гэтай-жа газэце ствараецца асобны аддзел аб коопэрацыі, у якім друкуюцца „Популярныя вочаркі па тэорыі коопэрацыі“—Пажытнова.

У выніку гэтай кампаніі нарадзілася ўстанова пад назвай „Беларускае Цэнтральнае Пазычкова-Зьберагальнае таварыства ў Латвіі“. Гэта таварыства пачало абслугоўваць усіх, хто толькі меў у кішэні грошы. Латыскія спэкулянты зрабіліся тут пажаданымі і неабходнымі членамі. Гэтага не адмаўляюць нават ініцыятары таварыства. Яны пішуць:

„Для дапамогі беларусам з грашова-гаспадарчага боку, адчынена „Беларускае Цэнтральнае Пазычкова-Зьберагальнае Т-ва ў Латвіі“. Ня гледзячы на ягоны нацыянальны назоў, ён спаткаў дображаданасьць і давер'е з боку латыскае насельнасьці.

[1] „Гаспадар“ № 2. стар. 2, Рыга, 1926 г.

якое ўступае ў ягоныя сябры і сваёй вялікшай заможнасьцю, чым беларуская, павялічвае ягоную крэдытную моц".[1]

Што-ж уяўляе сабой гэтая „латыская насельнасьць", якая кіруе беларускімі кулацкімі коопэратарамі?

Вось склад рады і рэвізійнай камісіі „Беларускага Цэнтральнага Пазычкова-Зьберагальнага Т-ва ў Латвіі" у першыя часы пасьля яго заснаваньня:

С. Каўлін—памочнік па камэрцыйных справах кіраўніка рыскае пасажырскае станцыі.
С. Красьневіч— дамаўласьнік у г. Краслаўцы.
В. Аксенаў—уласьнік вэлёсыпэднай майстэрні.
М. Васілякін—уласьнік дравяной крамы.
П. Мартысон—кіраўнік Інстытуту практычных ведаў.
Швэйцэр-Зінгіс—рэвізор дзяржаўнага кантролю.
Вістуц—дамаўласьнік у Вэндану.

Гэтыя крокі беларускіх нацыяналістаў у Латвіі ў галіне эканомічнай супадаюць з пэрыодам адноснай і часовай стабілізацыі пасьляваеннага капіталізму, з росквітам прышчэпаўшчыны ў БССР. Сваю экономічную працу яны мысьляць як умацаваньне позыцый беларускага капіталу, у першую чаргу кулакоў. Свае намаганьні да разьвіцьця беларускага капіталізму, свае імкненьні да эксплёатацыі працоўных мас і да накапленьня капіталу Езавітаў выразіў у наступных словах:

„Капітал, ускормлены на беларускай глебе і пакалупаны мазалём беларускага селяніна і рабочага, выплываў з Беларусі ў суседнія старонкі і дзьвігаў прамысловасьць Лодзі, Варшавы і інш. чужых гарадоў, прыбіраючы вуліцы гэтых гарадоў прыгожымі будынкамі, папаўняючы іх гулам аўтомобільных ражкоў".[2]

Езавітаву здаецца, што яго нацдэмаўскім прыяцелям у БССР удасца скіраваць краіну на шлях капіталістычнага разьвіцьця. У гэтым сэнсе і трэба разумець здавальненьне былога палкоўніка тым, што... „у Радзянскай Беларусі... беларусы ўжо ўзяліся за экономічную працу і пасьпелі дзе што зрабіць".[3]

Але надзеі беларускай контррэволюцыйнай эміграцыі ня спраўдзіліся. Наступ Савецкае ўлады на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі—горка расчаравала апосталаў беларускага нацыяналізму.

## Організацыі моладзі і барацьба за працоўную моладзь

Ідэолёгі беларускага нацыяналізму ў Латвіі вельмі добра разумеюць ролю працоўнай моладзі ў клясавай барацьбе, а таму і імкнуцца ўсімі магчымымі сродкамі атручваць беларускую працоўную моладзь буржуазна-нацыяналістычным дурманом. Гэтае адурманьваньне яны праводзяць праз беларускую нацыяна-

[1] „Гаспадар" № 4. Рыга, 1926 г., стар. 29.
[2] „Беларуская школа ў Латвіі", Рыга, 1927 г. № 4, стар. 47.
[3] Там-жа.

лістычную прэсу, школу, тэатр і праз розныя свае „навуковыя“ і культурна-асьветныя таварыствы.

З гэтай мэтай і ўтвараюцца беларускія буржуазна-нацыяналістычныя таварыствы моладзі.

Першым крокам у гэтым напрамку было стварэньне ў Латвіі бойскаўцкіх атрадаў пры беларускіх гімназіях у Дзьвінску і Люцыну (1923 г.). Аддзяленьні гэтых атрадаў у далейшым былі заснаваны пры некаторых беларускіх пачатковых школах.

Ад беларускага скаўта ў Латвіі патрабуюць, каб ён ганарова выконваў свой абавязак „перад богам, бацькаўшчынай і латвійскім урадам“, г. зн. каб без разважаньняў падпарадкаваўся волі эксплёататараў.

Кіраўнікі беларускіх скаўцкіх атрадаў у Латвіі, як Езавітаў, Відаўскі і інш. імкнуцца скарыстаць скавутызм у мэтах беларускага нацыяналізму, высоўваючы на першы плян змаганьне за буржуазную Беларусь.

Скавутызм з яго культам пакорнага выканаўцы волі „бога, бацькаўшчыны і буржуазнага ўраду“ зьяўляецца рэзэрвам буржуазіі ня толькі для будучых войн, але і для сучасных клясавых боек. Скавуты гэта надзейныя слугі капіталістаў, паслухмянае „пушачнае мяса“ ў будучых войнах і энэргічныя штрэйкбрэхэры ў сучасным. Зразумела, што скавутызм, у які-б нацыяналістычны колер ён ні афарбоўваўся,—зьяўляецца варожым для працоўных мас моладзі. І калі частка беларускай працоўнай моладзі ўсё-ж такі ўцягвалася ў скавуцкія атрады, то заставалася ў іх нядоўга. З ростам сваёй палітычнай сьвядомасьці яна пераконвалася ў буржуазнай сутнасьці скавутызму і пакідала скавуцкія атрады.

Беларуская працоўная моладзь у Латвіі на працягу ўжо цэлага раду год ня мае сваёй сталай організацыі. Частка яе знаходзіцца пад уплывам беларускага нацыяналізму, якому яна і аддае свае сілы і здольнасьці. Больш прогрэсыўныя элемэнты гэтай моладзі ў процэсе клясавай барацьбы пачынаюць усьведамляць буржуазную сутнасьць беларускага нацыяналізму і пераходзяць у рады рэволюцыйных барацьбітоў пад кіраўніцтвам нелегальнага комсамолу Латвіі.

Каб затармазіць паглыбленьне клясавай дыфэрэнцыяцыі сярод беларускай моладзі і трымаць яе пад нацыянал-фашысцкім уплывам, у 1928 г. было ўтворана „Таварыства беларускай моладзі ў Латвіі“. Старшынёй гэтага таварыства быў прызначаны кулацкі сынок П. Журкоўскі, а сакратаром вядомая ў Латвіі беларуская шовіністка Н. Пінская. Вельмі характэрна выступленьне старшыні і сакратара гэтага таварыства на так зв. уселатвійскай нарадзе прадстаўнікоў усіх організацый беларускай меншасьці ў Латвіі, якая адбылася 29 сакавіка 1929 г. у Рызе.

П. Журкоўскі аказаўся „правей“ нават самаго Езавітава. У сваім дакладзе гэты прэтэндэнт у кіраўнікі беларускай моладзі ў Латвіі кінуў папрок Езавітаву, Пігулеўскаму і інш. беларускім нацыянал-фашыстам у тым, што яны нібы та „зьмяняюць вехі“, нібы непасьлядоўны ў сваёй нацыянал-фашысцкай палі-

тыцы. Езавітаў у сваёй газэце „Голас Беларуса" вымушан быў прызнаць, што:

„Дакладчык нездаволены станам беларускае сьвядомасьці ў Латвіі і хацеў-бы яе падняць, але з слоў яго ясна відаць, што ён хацеў-бы, падымаючы беларускую нацыянальную сьвядомасьць, абмінуць сьвядомасьць соцыяльную, бо баіцца, што на гэтым пункце могуць адбыцца спрэчкі, якія прывядуць да падрабленьня на розныя кірункі".[1]

Гэтага „падрабленьня беларускае моладзі на розныя кірункі" відаць баіцца і сам Езавітаў, але ён як спрактыкаваны нацыянал-фашыст добра разумее, што пры сучасным становішчы неабходна прыкрывацца „левай" фразай, каб канчаткова не пазбавіцца ўплыву на найбольш адсталыя беларускія масы Латвіі.

Зразумела, што нацыянал-фашысцкае выступленьне Журкоўскага сустрэла дружны адпор з боку беларускай працоўнай моладзі. Асабліва абурэньне ў моладзі выклікала прамова сакратара таварыства Н. Пінскай, якая адкрыта назвала сябе шовіністкай і нават думала ганарыцца гэтым. Пасьля гэтага выступленьня ініцыятараў „Беларускага таварыства моладзі" ўсім было ясна, чые інтарэсы таварыства абараняе. Беларуская кулацкая моладзь у Латвіі, яшчэ мала спрактыкаваная ў пытаньнях клясавай мімікрыі, вельмі адкрыта і галосна заявіла аб сваіх жаданьнях, а таму духоўныя апякуны яе, як Езавітаў і інш., палічылі патрэбным крыху стрымаць сваіх перастараўшыхся вучняў.

Адначасова з актывізацыяй беларускай кулацкай моладзі ў Латвіі расьце рэволюцыйны рух сярод шырокіх працоўных мас беларускае моладзі гораду і вёскі. У асабліва цяжкіх умовах знаходзіцца гэтая моладзь у Латгаліі. Цэлыя тысячы дзяцей беларускай паўпэрызаванай вёскі, каб не памерці з голаду, вымушаны прадавацца ў кабалу латгальскім кулакам і шэрым баронам Курляндыі. Вялізная рэзэрвная армія беспрацоўнага галоднага батрацтва Латгаліі забясьпечвае кулацтву танную рабочую сілу і дае магчымасьць яму самым жорсткім чынам эксплёатаваць падрастаючае пакаленьне. Зграя шпікоў і ўзброеных „айзсаргаў"[2] пільна сочыць за кожным рэволюцыйным крокам працоўнай моладзі. Шмат маладых беларускіх рэволюцыянэраў знаходзіцца за кратамі засьценкаў фашысцкай Латвіі.

Рэволюцыйны рух ахапляе і вучнёўскую моладзь беларускіх школ. Агенты латвійскай ахранкі даволі часта выкрываюць „бальшавіцкую заразу" ў Дзьвінскай беларускай гімназіі. Цэлы

[1] „Голас Беларуса", Рыга, 1929 г., № 60.

[2] „Айзсаргі"—дабраахвотная ваенная організацыя фашысцкіх ахраньнікаў, у якой налічваецца каля 40.000 чалавек. Гэтая організацыя пабудавана па тэрыторыяльнаму прынцыпу—павет, воласьць, мястэчка. Усяго маецца 19 палкоў па ліку паветаў. Узброены „айзсаргі" амаль таксама, як і армія. Галоўнейшыя задачы гэтай організацыі:

1. Барацьба з рэволюцыйным рухам, шпіянаж, ліквідацыя паўстаньняў, разгон сходаў і г. д.

2. Барацьба з забастоўкамі на транспорце (спэцыяльныя часткі „айзсаргаў"-транспортнікаў на галоўнейшых станцыях).

3. Падтрыманьне арміі ў часе вайны.

рад вучняў гэтай гімназіі выдадзены латвійскай ахранцы беларускім нацыянал-фашысцкім настаўніцтвам. Бэрлінскі орган беларускага нацыянал-вызваленчага руху „Барацьба“ паведамляе, што: ...„у Дзьвінскай беларускай гімназіі прададзена многа вучняў: вучань Лябёдка прыгаворана да 3 год катаргі, а вучань Рыгор Фёдараў, мучаны $2^1/_2$ гады да суду, прысуджаны да 8 год катаргі без заліку праседжанага да суда!“ [1]

Падобныя расправы латвійскіх фашыстаў над беларускай рэволюцыйнай моладзьдзю не зьяўляюцца рэдкасьцю.

У барацьбе за працоўную моладзь беларускія нацыянал-фашысты ў Латвіі вельмі шырока скарыстоўваюць беларускую школу. Гэта школа робіцца кузьняй беларускіх нацыяналістычных кадраў. Праз школу пашыраецца „тэорыя“ беларускай самабытнасьці, ідэалізуецца далёкае мінулае фэодальнай Беларусі, культ Скарыны і Кастуся Каліноўскага знаходзіць тут поўнае сваё выяўленьне. У дадатак да ўсяго гэтага пашыраецца „папулярная“ літаратура накшталт часопісу „На чужыне“ з заклікам узброенага змаганьня з ворагамі „беларускага народу“ пад сьцягам белабандыцкага „бацькі“ Балаховіча. Але, ня гледзячы на нацыянал-шовіністычную атмосфэру, якая ствараецца ў беларускіх школах, ня гледзячы на імкненьне беларускага нацыянал-фашысцкага настаўніцтва прышчапіць вучням „любоў да беларускага і пашану да латыскага народу“—у школах адбываецца абвостраная клясавая барацьба. Беларускай рэволюцыйнай моладзі ў Латвіі прыходзіцца весьці змаганьне як супроць латвійскага фашызму, так і супроць беларускіх нацыяналістаў, якія зьяўляюцца агентурай латвійскай буржуазіі.

Былы ўрад Скуенека, выносячы ў 1932 г. пастанову аб паступовай ліквідацыі дзьвінскай беларускай гімназіі, падкрэсьліў, што ў гэтай гімназіі пануе антыдзяржаўны настрой сярод вучняў і што комуністы знаходзяць тут добрую глебу для сваёй работы.

Беларускія нацыянал-фашысты ў Латвіі апраўдваюцца перад абвінавачваньнем у недастатковай барацьбе з рэволюцыйным рухам сярод школьнай моладзі і, становячыся ў позу абражанага гонару, заяўляюць буржуазнаму міністру:

> „Ваш закід, гр. міністр, у тым, што ў Дзьвінскай беларускай гімназіі пануе процідзяржаўны настрой, ёсьць абраза для ўсёй беларускай меншасьці ў Латвіі... Комуністы агітуюць усюды, таксама і сярод беларускай моладзі па-за школай, але сярод іх няма большага посьпеху, чым сярод іншых нацыянальнасьцяў у Латвіі“. [2]

Каб некалькі затушаваць замах на беларускую гімназію і ўключыць выкідваемых вучняў гэтай гімназіі ў русла латышызацыі, латыскія фашысты дадумаліся да таго, каб адчыніць пры латыскай гімназіі ў Дзьвінску беларускія паралельныя клясы. У гэтых проектуемых клясах абяцаецца выкладаньне некаторых прадметаў на беларускай мове, а бяднейшыя вучні нібы та бу-

[1] „Барацьба“, студзень 1933 г., № 1. Бэрлін.
[2] „Беларуская школа ў Латвіі“, № 4, 1932 г., стар. 198.

дуць забясьпечвацца стыпэндыяй і вызваляцца ад платы за навучаньне. Сапраўдную-ж прычыну такіх „міласьцяў“—зразумецьня цяжка. Гэтыя „паралельныя“ клясы будуць, па-першае, месцам прымусовай латышызацыі беларускай моладзі, а, па-другое, сюды ўжо напэўна ня трапіць беларуская рэволюцыйная моладзь, якая так непакоіць латыскіх фашыстаў. Можна быць пэўным, што ў гэтыя клясы будуць мець доступ толькі дзеці беларускай буржуазіі і кулацтва. Праз „паралельныя“ беларускія клясы пры латыскіх гімназіях латыскі фашызм мае на мэце сконцэнтраваць у сваіх руках контроль над соцыяльным складам беларускай вучнёўскай моладзі.

Патрэба самаорганізацыі беларускай працоўнай моладзі ў Латвіі ўсё больш і больш узрастае. Ня меншая патрэба адчуваецца і ў рэволюцыйным выхаваньні гэтай моладзі, у адваяваньні тэй часткі яе, якая атручана і атручваецца дурманом беларускага нацыяналізму.

Сваю рэволюцыйную барацьбу гэтая моладзь у Латвіі пасьпяхова зможа весьці толькі пад сьцягам Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі.

„Рэволюцыйная моладзь да гэтага часу была самым яркім, самым чыстым полымем рэволюцыі; яна і надалей будзе самым цякучым нязгасным полымем рэволюцыі сусьветнага пролетарыяту. Разам з сваімі дарослымі братамі ў радох Комуністычнага Інтэрнацыяналу, да баявых шарэнгаў якога належыць КІМ, працоўная моладзь усіх краін ідзе насустрэч вялікай мэце: зьвяржэньню сусьветнага капіталізму, да перамогі сусьветнага комунізму і тым самым да поўнага вызваленьня працоўнай моладзі ад сёнешняга яе парабашчэньня“. [1]

## „Навуковая“ работа і царкоўная політыка беларускіх нацыянал-фашыстаў

Змычка беларускіх нацдэмаў БССР з беларускім нацыянал-фашызмам адбывалася і па лініі „навуковай“ работы, галоўным чынам у галіне краязнаўства. Нацдэмы ў Інбелкульце разгарнулі шырокую краязнаўчую работу, у якой пад шыльдай „беларускай нацыянальнай культуры“ фактычна праводзіліся буржуазна-рэстаўратарскія, контррэволюцыйныя ўстаноўкі ў БССР, Польшчы і ў Латвіі. Па ініцыятыве Інбелкульту ўзьнік цэлы рад краязнаўчых гурткоў, якім рассылаліся інструкцыі і адозвы. Аб распаўсюджваньні інструкцый для зьбіраньня слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове А. Цьвікевіч казаў:

„Інструкцыя была разаслана ня толькі настаўнікам, агрономам, дактаром і краязнаўчым таварыствам БССР Гомельшчыны, Смаленшчыны і Невельшчыны, але таксама і за-граніцу—„навуковым таварыствам“ у Вільні і Рызе“. [2]

На гэту інструкцыю дружна адгукнулася беларуская эміграцыя. Палкоўнік Езавітаў у Латвіі організуе „навукова-краязнаўчы“

[1] „Програма Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі“.
[2] „Навука“ на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі. Менск, 1931 г.

гурток пры „Таварыстве беларусоў-выбаршчыкаў“, які за апошні час рэорганізаваны ў „навуковае“ таварыства. Езавітавым-жа выдаецца брошура „Бярыцеся ўсе за навукова-дасьледчую працу“.

У гэтай брошуры-інструкцыі гаворыцца, што... „пры запісваньні слоў кіравацца гаворкай карэнных жыхароў, пераважна тых, якія не выяжджалі за межы свайго павету... Значную цікавасьць выяўляе мова старых людзей і няпісьменныхь жанчын“.[1]

Такім чынам, адсталыя пласты беларускага насельніцтва, старыя няпісьменныя бабулькі, па Езавітаву, зьяўляюцца носьбітамі „самабытнай“ Беларусі. Усё новае рэволюцыйнае, абнаўленцамі старога „крыўскага“ быту сьвядома ігноруецца, бо нясе сьмерць рэшткам прыгоньніцкай старасьветчыны, якую так ідэалізуюць ідэолёгі беларускага нацыяналізму.

Разам з краязнаўчай працай беларускі „навуковы“ гурток у Латвіі займаецца організацыяй і пропагандай рэлігійнага дурману. Рэлігія цікавіць апосталаў беларускага буржуазнага адраджэньня як сродак пропаганды сваіх буржуазна-нацыяналістычных ідэй. Езавітаў і яго кампанія ў Латвіі з вялікай увагай прыглядаюцца да таго духавенства, якое пачынае на беларускай мове атручваць сьвядомасьць адсталай часткі беларускага насельніцтва. Але духавенства, якое-б захаплялася беларускімі нацыяналістычнымі ідэаламі ў Латвіі вельмі мала. Каталіцкія ксяндзы ў большасьці зьяўляюцца полёнафіламі і працуюць на карысьць фашысцкай Польшчы. Праваслаўныя-ж папы звычайна праводзяць політыку расійскага вялікадзяржаўнага шовінізму. Такім чынам як каталіцкае, так і праваслаўнае духавенства скарыстаць у мэтах беларускага нацыяналізму ў Латвіі даволі цяжка. Шукаецца новы шлях да рэлігійнага адурманьваньня беларускага насельніцтва ў Латвіі. Беларускія нацыянал-фашысты ў Латвіі дадумаліся скарыстаць у сваіх мэтах рэлігійнае сэктанства. Стаўка робіцца галоўным чынам на баптыстаў і мэтодыстаў.

„Пазбаўленыя лішняй абраднасьці і ўдзеляючыя больш увагі на моральнае выхаваньне мас, чым на ўсялякія формы і абрады, абодвы веравызнаньні, бяз сумліву, у бліжэйшыя годы зробяць у Беларусі вялікія посьпехі, калі, зразумела, яны цьвёрда стануць на нацыянальна-беларускі грунт, калі будуць умець падрыхтаваць кадры прапаведнікаў-беларусоў, калі будуць выдаваць больш літаратуры ў беларускай мове і калі, што самае галоўнае, ня стануць праваднікамі расійскіх і польскіх асымілюючых ідэй. Ёсьць грунт думаць, што, калі і надалей праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл будуць варожа ці індыфэрэнтна ставіцца да беларускага нацыянальнага руху і ягоных дамаганьняў, калі яны і надалей будуць адкідаць беларускія казаньні і сьпевы ў царкве і касьцёле, дык дзе якія нацыянальна думаючыя групы беларускае інтэлігенцыі дзейна возьмуцца за

[1] *Езавітаў*, „Бярыцеся ўсе за навукова-дасьледчую працу“. Рыга, 1926 г. стар. 14.

падтрымку баптыстаў і мэтодыстаў і асабліва падтрымаюць тую з гэтых двух апошніх цэркваў, якая зможа стаць больш блізкай да беларускага нацыянальнага руху і сама пойдзе на дзейную падтрымку беларускага адраджэньня".[1]

Рэлігія ў дзейнасьці беларускіх контррэволюцыянэраў займае адно з важных месц. Усімі сіламі яны імкнуцца давесьці, што іменна рэлігія зьяўляецца носьбітам нацыянальнай самабытнасьці. Недарма ідэолёгі беларускай буржуазіі рознымі спосабамі клерыкалізуюць усю сваю „навуковую" работу, выпукляючы ў ёй на першае месца рэлігійныя моманты.

Ініцыятары вышэй адзначанага таварыства свае мэты формулююць наступным чынам:

„а) аб'яднаць усе беларускія і прыхільныя беларускаму адраджэньню навуковыя і аматарскія сілы ў Латвіі, якія працуюць зараз кожны паасобку над пытаньнямі беларускае культуры і навукі;

б) працаваць супольнымі сіламі над пытаньнямі гісторыі, географіі, этнографіі, літаратуры, мастацтва, музыкі, фольклёру і экономікі Латвіі і Беларусі;

в) пашыраць здабытыя веды сярод беларускага і латвійскага грамадзтва ў Латвіі;

г) садзейнічаць усімі вышэйпералічанымі спосабамі ўзаемнаму азнаямленьню і збліжэньню беларускага і латыскага народаў".[2]

Даволі вось гэтай вытрымкі, каб зразумець клясавую прыроду „навуковай" работы беларускіх буржуазных адраджэнцаў у Латвіі.

Аднэй з галоўных задач таварыства зьяўляецца аб'яднаньне ўсіх беларускіх контррэволюцыйных сіл. Яно патрэбна для таго, каб агульнымі сіламі з латыскай буржуазіяй працаваць над беларускім і латвійскім (а па сутнасьці буржуазна-беларускім і буржуазна-латвійскім) мастацтвам і навукай. Усё гэта нібы мае сваёй мэтай „садзейнічаць узаемнаму азнаямленьню і збліжэньню беларускага і латвійскага народаў".

Толькі пры падтрымцы латвійскай буржуазіі беларускія нацыянал-фашысты ў Латвіі маюць магчымасьць разгортваць сваю буржуазна-адраджэнцкую работу. Таму яны імкнуцца ў сваёй „навуковай" рабоце знайсьці контакт з прадстаўнікамі латвійскай буржуазнай навукі і мастацтва. Усё гэта робіцца пад лёзунгам зблiжэньня і азнаямленьня беларускага і латвійскага народаў.

Кіраўніцтва беларускім „навукова-краязнаўчым" таварыствам у Латвіі знаходзіцца ў руках Езавітава. Акрамя яго, у склад праўленьня таварыства ўваходзяць: А. Радзько, С. Сыцько, Г. Нікіфароўская.

Апошнія зьяўляюцца беларускімі настаўнікамі ў Рызе.

[1] „Голас Беларуса", Рыга, 1926 г., № 2.
[2] „Беларуская школа ў Латвіі" № 3, Рыга, 1932 г., стар. 186.

У сваёй рабоце таварыства абапіраецца, галоўным чынам, на беларускае нацыяналістычнае настаўніцтва і вучнёўскую моладзь.

Уся гэта работа праводзілася раней пад непасрэдным кіраўніцтвам нацдэмаўскага Інбелкульту. Езавітаў у Латвіі яшчэ ў 1926 г. пісаў:

„У Менску пры Ін-це Беларускае культуры, з выдатнейшых беларускіх навуковых сіл утварылася асобнае Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое атрымлівае адусюль матар'ялы, разглядае, сыстэматызуе і выдае свой штомесячнік і розныя інструкцыі па зьбіраньні гэтых матар'ялаў. .

Мы тут, беларуская меншасьць у Латвіі, павінны таксама прыняць удзел у гэтай надзвычайна важнай і карыснай навуковай працы".[1]

Разгром нацдэмаўшчыны ў БССР унёс некаторы заняпад у „навуковую" работу беларускіх нацыянал-фашыстаў у Латвіі, але за апошнія часы гэта работа зноў актывізуецца і некалькі перабудоўваецца. Перабудова намячаецца ў напрамку набліжэньня да сучаснага беларускага і латвійскага жыцьця, якое падаецца ў буржуазна-нацыяналістычным асьвятленьні.

„Навуковае" таварыства скарыстала для сваіх мэт юбілей Я. Купалы і Я. Коласа. Старшынёй таварыства Езавітавым чыталіся даклады ў Рызе на тэму: „Янка Купала і Якуб Колас у беларускім адраджэньні". Імёны папулярных народных поэтаў БССР, зьвязаўшых свой лёс з лёсам пролетарыяту, былі скарыстаны б. беларускім палкоўнікам як сродак пропаганды буржуазнага беларускага адраджэнцтва. Такім-жа чынам скарыстоўваўся і юбілей народнага артыста БССР Галубка.

Разам з гэтым шмат увагі надаецца латыскаму буржуазнаму пісьменьніку Яну Райнісу (Райніс памёр 12/IX 1929 г.). У пэрыод рэволюцыі 1905 г. Райніс быў адным з самых популярных поэтаў сярод працоўных латыскіх мас, але ў далейшым здрадзіў працоўным масам і перайшоў у лягер латыскіх соцыял-фашыстаў. Будучы міністрам асьветы, Райніс падтрымліваў беларускіх нацыяналістаў.

Такім чынам „навуковая" работа беларускіх нацыянал-фашыстаў у Латвіі зьяўляецца толькі аднэй з форм клясавай барацьбы. Пад шыльдай „навукі" уваскрашаюцца, консэрвуюцца і фэтышызуюцца рэакцыйныя перажыткі беларускага фэодальна-буржуазнага мінулага. Гэта робіцца для таго, каб атручваць нацыяналізмам сьвядомасьць працоўных беларускіх мас. Адначасова з гэтым вядзецца гандаль з баптыстамі і мэтодыстамі аб тым, каб як найлепей скарыстаць контррэволюцыйнае сэктанцтва для мэт нацыяналістычнага адурманьваньня найбольш адсталых беларускіх працоўных мас у Латвіі.

---

[1] *К. Езавітаў.* „Бярыцеся ўсе за навукова-дасьледчую працу". Рыга, 1926 г., стар. 5.

# АНТЫСАВЕЦКІЯ ПЛЯНЫ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫСТАЎ

У сучасны пэрыод надзвычайна абвостранай клясавай барацьбы, у пэрыод канца гнілой стабілізацыі капіталізму і надыходу новага туру рэволюцый і войн фашызм шукае выхаду з крызісу ў вайне з Савецкім саюзам. Асабліва адкрытая прапаганда і падрыхтоўка да вайны з СССР праводзіцца фашысцкай Нямеччынай. „Мы баронім ня толькі Нямеччыну, але і ўсю Эўропу"—заявіў Герынг, з поваду абвяшчэньня „вайны супроць марксызму".

Змагаючыся за рэвізію Вэрсальскага трактату, нямецкая буржуазія ў свае антысавецкія пляны ўключае і так званае літоўска-беларуска-украінскае пытаньне з тым, каб у выніку вайны з Савецкім саюзам, адарваць ад яго пэўную частку тэрыторыі і зрабіць яе колёніяй нямецкага капіталу. З вялікай радасьцю віленскі орган беларускіх нацыянал-фашыстаў „Родны Край", паведамляе:

...„на чале гэтай усходняй акцыі Гітлера пастаўлены вядомы сваімі антысавецкімі выступленьнямі Розэнбэрг, які і зьяўляецца творцай гэтай ідэі стварэньня фэдэратыўнай дзяржавы літоўска-беларуска-украінскай, шляхам адарваньня Украіны і Беларусі ад Савецкага саюзу". [1]

Гэта ўсходняя акцыя Гітлера выклікае ажыўленьне ў лягеры беларускіх нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі, Латвіі, Літвы. Луцкевічы, Езавітавы, Якавюкі і К° выяўляюць перад імпэрыялістамі Захаду сваю рабскую гатоўнасьць гандляваць беларускімі працоўнымі масамі. Жах перад набліжэньнем пролетарскай рэволюцыі і зьвярыная нянавісьць да краіны працоўных выклікае ў іх гатоўнасьць схіліцца перад крывавым ботам Гітлера і паўтарыць у новых абставінах прадажна-здрадніцкі акт 1918 г. Але разам з гэтым, ідэолёгі як беларускай, так і украінскай буржуазіі застаюцца вернымі саюзьнікамі польскай буржуазіі і інш. у барацьбе з рэволюцыйным рухам і ў падрыхтоўцы да вайны з Савецкім саюзам. VI зьезд компартыі Польшчы адзначае, што: „як беларуская, так і украінская буржуазія, не адмаўляючыся ад таго, каб пры пэўнай сітуацыі выкінуць лёзунг сваёй дзяржаўнасьці, зьяўляецца саюзьнікам буржуазіі польскай,

[1] „Родны Край", № 8, Вільня, 1933 г.

у яе барацьбе супроць рэволюцыйнага руху, у падрыхтоўцы да вайны супроць СССР".

Ускладаючы вялікія надзеі на гітлераўскі плян так званай літоўска-беларуска-украінскай фэдэрацыі, беларускія нацыянал-фашысты консолідуюць свае сілы на выпадак вайны з Савецкім саюзам. Гэта консолідацыя праводзіцца пад шыльдай „культурнай сувязі беларусоў" Заходняй Беларусі, Латвіі, Літвы.

Махровы беларускі нацыянал-фашыст Луцкевіч даволі часта наведвае сваіх хаўрусьнікаў у Латвіі. Пігулеўскі ў сваю чаргу наладзіў сувязь з Вільняй. Езавітаў разгарнуў шырокую кампанію за так званае „беларуска-літоўскае зьбліжэньне". Гэтая кампанія знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з замежнай політыкай Літвы. У барацьбе за Вільню літоўская буржуазія імкнецца скарыстаць беларускі нацыяналістычны рух і выкарыстаць супярэчнасьці паміж польскай і беларускай буржуазіяй. З гэтай мэтай у Коўні ўтворана „Беларускае культурна-асьветнае таварыства", на чале якога стаіць беларускі нацыянал-фашыст Якавюк. Ва ўласным доме Якавюка зьмяшчаецца „беларускі клюб". Па ініцыятыве вышэйадзначанага таварыства склікаецца беларускі нацыянал-фашысцкі конгрэс у Літве. У Коўні заснаваны так званы беларускі народны унівэрсытэт, філіялы якога намечана адкрыць у провінцыі.

Пропагандуючы „літоўска-беларускае зьбліжэньне" і ідучы на хаўрус з беларускімі нацыянал-фашыстамі ў Літве, на чале з Якавюком, Езавітаў імкнецца папярэдзіць іх аб тых „памылках", якія ў свой час тут былі нібыта зроблены Ластоўскім і К°. Галоўнае ў гэтых памылках, па думцы Езавітава, заключаецца ў тым, што беларускія эмігранцкія організацыі ў Літве ня цікавіліся жыцьцём працоўных мас беларускай меншасьці, не змаглі скарыстаць гэтыя масы для сваіх політычных мэт.

„Зараз беларуская праца,—піша ён,—павінна абапірацца ня толькі на высокія кваліфікаваныя адзінкі, якая-бы ні была велічыня іхняе індывідуальнае вартасьці, але, галоўным чынам, на шырокія працоўныя масы. Для працоўных мас і разам з імі павінны працаваць беларускія адраджэнцы".[1]

У выпадку вайны імпэрыялістаў Захаду з Савецкім саюзам збанкрутаваўшая беларуская буржуазія зноў марыць аднавіць свой гандаль. Яна ўжо зараз, праз дэмагогію Езавітавых, Луцкевічаў і К°, імкнецца адурманіць беларускія працоўныя масы фальшыва-нацыяналістычнымі лёзунгамі буржуазнага „адраджэнцтва". Заклік былога палкоўніка працаваць „для працоўных мас і разам з імі" ёсьць ні што іншае, як хлусьлівая фраза, якой прыкрываецца супрацоўніцтва з пануючым фашызмам Пігулеўскіх і Езавітавых у Латвіі, Якавюкоў у Літве, Луцкевічаў у Польшчы.

Супрацоўніцтву з фашысцкай Літвой і стымуляваньню ў ёй беларускага буржуазна-нацыяналістычнага руху езавітаўская кампанія надае вялікае значэньне. Усё гэта, па думцы Езаві-

[1] *К. Езавітаў.* „Беларусы ў Літве". Рыга, 1932 г., стар. 16.

тава, падымае акцыі беларускай буржуазіі ў вачох польскага фашызму.

Так званае „беларуска-літоўскае“ супрацоўніцтва Езавітавых і К° дае ім некаторую магчымасьць патаргавацца з польскай буржуазіяй адносна скуры незабітага мядзьведзя, якім у гэтым выпадку зьяўляюцца беларускія працоўныя масы. Літва-ж для беларускай, украінскай і літоўскай буржуазіі, па плянах Езавітава, павінна быць тым тылам, які-б забясьпечыў рэзэрвы беларускай контррэволюцыі на выпадак вайны з Савецкім саюзам.

„Для ўсіх трох народаў зусім ясна стала,—кажа ён,—што толькі шляхам нацыянальна-культурнае працы і соцыяльна-грамадзкага змаганьня ў гэтых краінах змогуць беларусы, літвіны і украінцы перамагчы окупанцкую навалу. Зараз беларусы, як і украінцы, упарта змагаюцца. Аднак, для пасьпяховага змаганьня патрэбен забесьпечаны тыл, які даў-бы магчымасьць адпачынку і падрыхтоўкі да новае барацьбы... І беларусы шукаюць гэтага забясьпечанага тылу *ўсюль, дзе толькі магчыма*“.[1] (курсыў мой *Я. Д.*).

Пад шыльдай „нацыянальна-культурнай“ працы, прастытуяваны беларускі нацыянал-фашызм шукае сабе пакупца „усюль, дзе толькі магчыма“. Сёньня беларускіх нацыянал-фашыстаў купляе крывавы Гітлер за сваю фальшывую акцыю „літоўска-беларуска-украінскай“ фэдэрацыі, а заўтра мабыць знойдзецца новы купец...

Але беларускія працоўныя масы ў адзіным фронце з рабочымі і сялянамі ўсёй Латвіі, пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі Латвіі, пільна сочаць за кожным рухам клясавага ворага і дзейна рыхтуюцца да абароны Савецкага саюзу. Яны штодзеннай масавай рэволюцыйнай барацьбой зьнішчаюць інтэрвэнцыяністскія пляны. Калі-ж выбухне імпэрыялістычная вайна, працоўныя масы ператвораць яе ў вайну грамадзянскую, якая на месцы крывавага фашызму замацуе чырвоны сьцяг пролетарскай дыктатуры.

---

[1] *К. Езавітаў.* „Беларусы ў Літве“. Рыга, 1932 г., стар. 16.

## КРЫНІЦЫ СКАРЫСТАНЫЯ АЎТАРАМ

„Т о в а р и щ“—Орган ЦК и Латгальского областкома компартии Латвии.

И. Р и н г—„Латвийский фашизм к подготовке интервенции“—Партиздат, Москва, 1932 г.

Л е н и н—Собрание сочинений, том XII, 2 изд.

„Г о л а с Б е л а р у с а“—газэта пад р э д а к ц ы я й К. Езавітава, Рыга, 1925—1929 гг.

А. Б и л ь м а н—Новая Латвия, Рыга, 1926 г.

„Б е л а р у с к і п р о ц э с у Л а т в і і“—брошура пад рэдакцыяй Езавітава, Рыга, 1926 г.

К. Е з а в і т а ў—„Бярэцеся ўсе за навукова-даследчую працу“, Рыга, 1926 г.

И. Я. В о р о н к о—„Белорусский вопрос к моменту Версальской конференции“, Ковно, 1919 г.

„Б е л а р у с к а я ш к о л а ў Л а т в і і“—Часопіс пад рэдакцыяй Езавітава, Рыга, 1927—33 гг.

„Г а с п а д а р“—Часопіс пад рэдакцыяй Я. Шчэрса, 1926 г.

„Н а ч у ж ы н е“—Часопіс № 1, 1920 г., Рыга.

К. Е з а в і т а ў—„Беларусы ў Літве“, Рыга, 1932 г.

А. Ч а р в я к о ў—„За Савецкую Беларусь“, Менск, 1927 г.

А. З у с ь к о ў—„Крывавы шлях беларускай нацдэмократыі“, Менск, 1931 г.

„Н а в у к а“ н а с л у ж б е н а ц д э м а ў с к а й к о н т р р э в о л ю ц ы і“ пад рэдакцыяй С. Я. Вольфсона, Менск, 1931 г.

„Б а р а ц ь б а“—Орган беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, Бэрлін, 1933 г.

„Р о д н ы к р а й“ № 8. Вільня, 1933 г.

П р о г р а м а К о м у н і с т ы ч н а г а І н т э р н а ц ы я н а л у м о л а д з і, ДВБ, Менск, 1932 г.

К. Е з а в і т а ў—„Беларусы ў Літве“, Рыга, 1932 г.

К. Е з а в і т а ў—„Беларусы ў Латвіі“, Рыга, 1927 г.

„C ī ņ a s B e e d r s“—Kominternes Latsekcijas izdevums, 1932-33 g.

L a t v i j a s K o m u n i s t i s k ā s P a r t i j a s VIII. kongress, „Spartaks“ izdev, 1931 g.

L a t v i j a s l a u k s t r ā d n e e k u, trūcīgo un videjo zemneeku cīņas programa. LKP CK izdev. 1932 g.

VI z j a z d K o m u n i s t y c z n e j P a r t j i P o l s k i. Wydawnictwo Partyjne, Moskwa, 1933.

---

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

**Уступ** . . . . . . . . . . . . 5

**Кароткая характарыстыка буржуазнай Латвіі.** 7

Утварэньне буржуазнай Латвіі і яе роля ў барацьбе супроць СССР . . . . . . . . . . . 7

Крызіс латвійскай прамысловасьці . . . . . . . 10

Аграрная рэформа і яе вынікі . . . . . . . . 11

Беларуская меншасьць у Латвіі . . . . . . . 15

**Асноўныя моманты ў дзейнасьці беларускіх нацыяналістаў у Латвіі.** . . . . . . 20

Беларуская контррэволюцыйная эміграцыя ў Латвіі . . 20

Беларускі процэс у Латвіі . . . . . . . . 26

„Зьмена вех“ . . . . . . . . . . . 30

**Організацыі беларускіх нацыяналістаў у Латвіі і формы іх работы** . . . . . . . 35

Таварыства беларускіх выбаршчыкаў . . . . . . 35

Гаспадарчая програма і організацыі . . . . . 37

Організацыі моладзі і барацьба за працоўную моладзь . . 39

„Навуковая“ работа і царкоўная палітыка беларускіх нацыянал-фашыстаў . . . . . . . . . . 43

**Антысавецкія пляны беларускіх нац.-фашыстаў** . 47